# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 32 (3248) Год LXIII | Беласток, 12 жніўня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



«Launch»



Маё Кіліманджара → 12




# Фольк у Міхалове

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

**У Міхалове над залівам нас чакае цудоўная хвіліна, калі ў сонцы і над вадою сустрэнемся народнаю сябрынай. Засяваем песню, што ў сэрцы ад вякоў, сустрэнем суседзяў, сваякоў, і чарачку гарэлачкі кульнем, за вашае здароўе шчыра п'ем! Няхай жыве нам горад Міхалова, што тут сабраў сяброў нанова! Бурмістру, жыхарам жадаем удачы і да глыбокай ночы весела паскачам!**

Так і было — як у гэтым узнагароджаным на мерапрыемстве вершы пра чарговыя Беларускія фольк-сустрэчы ў Міхалове

Былі прывітанні, пажаданні, узнагароды. Нагоды не было лепшай — у час арганізаваных Гмінным асяродкам культуры ў Міхалове, пры падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і ўнутраных спраў ды іншых дабрадзеяў — на беларускіх фолькавых сустрэчах. Мерапрыемства, як штогод, збірае тлумы аматараў беларускай традыцыі і было нагодай для падзякі за ангажаванне для міхалоўскай культуры Марыюша Харужага, і не толькі яго. Адно з самых вялікіх мерапрыемстваў у культурным календары Міхалоўскай гміны пачалося пасля поўдня 4 жніўня, у суботу, і працягвалася да глыбокай ночы, сабраўшы тысячы людзей з акалічных гмін, Падляшша і ўсёй краіны. Выступіла агулам 160 артыстаў з Польшчы, Беларусі і Латвіі (Народная студыя з Дагды) — 25 калектываў, у тым ліку 6 замежных. Вялі сустрэчу Марыюш Харужы і кіраўнік арт-гурта «Багач» з Менска Віктар Варонін, які не першы раз са сваім гуртом на Падляшшы:

— Вельмі цешыць тое, што нас запрасілі ў Міхалова на «Беларускія фольк-сустрэчы». Мы супрацоўнічаем з Падляшшам здаўна. Тыя калектывы, якія выступаюць на гэтай пляцоўцы, таксама прыязджалі да нас у Мінск, выступалі ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. І мы з імі сёння на адной сцэне.

Публіка чуе беларускую музыку як у выкананні выдатных калектываў з Падляшша, так і зорак эстрады Беларусі — «Багача», «Гуды» і «Свята». «Беларускія фольк-сустрэчы» ўжо на пастаянна ўвайшлі ў каляндар мерапрыемстваў беларускай культуры, гэта сапраўдны фэст для душы. І «ручкі дагары» — пляскала а не «ляпала» шматпакаленная публіка, штораз гусцейшая пад вечар, калі ўжо пачала крыху зніжацца тэмпература (38 градусаў «цяпла» на лавачках амфітэатра).






Міхалоўскі фэст быў аглядам беларускіх калектываў, чарговым штогадовым фестывалем беларускай песні, дзе выступілі і традыцыйныя народныя калектывы, і чуліся маладыя галасы, перш за ўсё з Гарадоцкай гміны, дзе моцна стаіць беларускі фальклор, але і з Міхалоўскай, дзе вельмі шмат прафесійнай працы і запалу ўклаў у аднаўленне перш за ўсё беларускай музычнай культуры якраз малады музыка і дзеяч беларускай культуры Марыюш Харужы.

— Ад імя Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства перадаю вам цёплае прывітанне. Жывень з'яўляецца вялікім фолькавым святам у нашым ваяводстве, — сказаў пры ўручэнні найвышэйшай узнагароды Падляшскага ваяводства Марыюшу Харужаму намеснік маршалка Мацей Жыўна. — І за падтрымку гэтых традыцый я хацеў бы сардэчна падзякаваць. Файна, што ў нас ёсць пры чым інтэгравацца. Сёння разам з Валянцінам Карыцкім хочам на гэтай сцэне ў Міхалове падзякаваць выдатнай, незаўраднай асобе, якая робіць так вельмі шмат для падляшскай культуры. Гэта малады музыка, заснавальнік і вядучы многіх калектываў на Падляшшы, плённы творца Марыюш Харужы. Nietuzinkowa osoba.

Можна сказаць, што ўсе ўдзельнікі — і выступоўцы, і гледачы, і іншыя — афіцыйныя — госці — «нетузінковыя» асобы.

працяг ☞ 4

9 770546 196017



# Ненавязлівы сэрвіс

У Беларусь усё болей і болей едуць замежныя турысты. Пра гэта сведчаць і афіцыйныя лічбы статыстыкі і візуальныя назіранні ў нашых беларускіх гарадах. Дзяржава ацаніла перавагі прыезду іншаземцаў у нашу краіну і цэлы час спрашчае візавы рэжым, пашыраючы так званы бязвіз на большую колькасць дзён. І гэта правільна, бо закрытасць межаў — гэта ізаляцыянізм і цемрашальства. Масты трэба будаваць, а не разбураць. А ў Беларусі сапраўды ёсць што паказаць і што паглядзець. З сэрвісам жа куды горш.

Давялося днямі праехацца мне рэйсавым дзяржаўным аўтобусам па некалькіх раённых цэнтрах Гарадзеншчыны. Люблю я вандраваць нашымі дарогамі ў розны спосаб — ад ровара да цягніка. Цікава паглядзець краявіды, убачыць помнікі архітэктуры, нейкія мясцовыя адметнасці, паслухаць тутэйшых людзей. Вёскі і мястэчкі нашы выміраюць, невялікія гарады таксама — дэмаграфічны крызіс кашчаваю рукой спакваля робіць сваю чорную справу. Пра прычыны такога стану заняпаду малых населеных пунктаў тут гаварыць не буду. Зрэшты, яны і так вядомыя. Так што тым дзяржаўным прапагандыстам, якія скрозь трубяць, што „мы сахранілі сяло", хочацца плюнуць у вочы. А яшчэ лепш, пасяліць іх самых назаўсёды ў прыдуманыя імі савецкія „аграгарадкі", якія канчаткова сцерлі з твару зямлі культуру і побыт нашых мястэчак.

Беларускую вёску ўжо не ўратаваць. Як ні прыкра гэта асэнсоўваць, працэс фізічнага вымірання незваротны. Магчыма, праз дзесяцігоддзі ўнукі і праўнукі пачнуць вяртацца ў дзедаўскія сядзібы, адбудоўваць іх як лецішчы для адпачынку, адраджаць паселішчы ўжо ў іншых формах.

Дык вось субота, аўтастанцыя дастаткова ўтульнага раённага цэнтра. Стаіць ужо два месяцы спякота. На вакзале не так шмат людзей, але ж піць у гарачыню хочацца. Яшчэ нядаўна непадалёк станцыі быў невялікі бар, дзе можна было з асалодай выпіць квасу, мінералкі ці піва — зараз на яго месцы ўжо магазін рытуальных паслуг. Побач функцыянавала дзяржаўная „забягалаўка", але яна зачынена на рамонт. Газетны кіёск, які апрача папяровай прадукцыі, гандлюе і напоямі, у сярэдзіне суботняга дня таксама закратаваны. Добра, яшчэ, што працуе платная прыбіральня. І канешне дзеіць шапік з цыгарэтамі. Вось цыгарэты ў нас падарожнік купіць усюды! Куры, хоць задушыся, а вось вады — хвіга з маслам, як казалі некалі.

Едзем далей. Яшчэ адзін раённы цэнтр, слаўны сваім бочкавым квасам. Такія бочкі ў Беларусі — гэта сапраўдная атракцыя і квас сапраўднага смаку, якога няма нідзе больш на свеце. Дык вось гэтыя бочкі, расстаўленыя ў розных кропках горада, у гэты спякотны дзень усе былі на замку. На аўтастанцыі мясцовая закусачная таксама была зачынена — аказваецца яе перанеслі ў іншае месца. Бегаць і шукаць гэтае месца часу не было. Наступны гарадок — і вось ён цуд выходнага дня — на аўтастанцыі працуе шапік з прахалоднымі напоямі. Але тут ужо катэгарычны кіроўца — стаянка аўтобуса адна хвіліна, так што выходзіць няма калі. Такі вось ён, як раней казалі, ненавязлівы савецкі сэрвіс. У выніку тры гадзіны дарогі без шанцаў на кроплю вады.

Не лепшая сітуацыя і ў цягніках-дызелях. Раней па іх снаўдалі ўвішныя бабулькі і вёрткія маладзёны, якія прапаноўвалі пасажырам марозіва, чыпсы, піражкі, часам напоі. Цяпер яны зніклі, напэўна ўвялі забарону. Ну, калі гэта не адпавядала нейкім санітарным і іншым нормам, то пастаўце ў сярэднім вагоне халадзільнічак і гандлюйце афіцыйна! Ёсць жа і пазітыўныя прыклады — некаторыя міжнародныя беларускія цягнікі значна палепшылі сэрвіс і сталі вельмі камфортнымі для пасажыраў. Варта толькі крыху падумаць пра людзей і ўсё наладжваецца нібы само сабой. Але для гэтага трэба яшчэ галоўны фактар — даць свабоду малому бізнесу і дробнаму гандлю. А вось на гэта дзяржава „рынкавага сацыялізму" ніколі не пойдзе. Бачылі б вы, якая свабода прыватнага гандлю, прыкладам, у грузінскім Тбілісі — у нас бы дакладна 90 адсоткаў тых крамак ды кавярняў пазачынялі б з гледзішча санітарных „нормаў". Забараняць у нас умеюць, а вось пра людзей думаюць у апошнюю чаргу.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# У Польшчы на помніку замазалі імя „Бурага"

Невядомыя нанеслі надпіс „Забойцы" і замалявалі прозвішча Рамуальда Райса „Бурага" на помніку ў гонар „выклятых жаўнераў" у гміне Посвентнэ (Падляшскае ваяводства). Вядзецца следства. Справа датычыць памятнай шыльды, на якой размешчаны надпіс: „У памяць пра жаўнераў 3-й Віленскай брыгады Нацыянальнага вайсковага задзіночання".

Помнік у гонар „Бурага" выклікае неадназначную рэакцыю не толькі сярод беларусаў Падляшша, кажа старшыня Беларускага гістарычнага таварыства Алег Латышонак:

— Гэта паказвае, што частка польскага грамадства штораз разбудоўвае гэты культ, але частка гэтаму супрацьстаіць. Мы мусім памятаць, што нявінных ахвяр было поўна не толькі ў беларускіх вёсках, але таксама ў польскіх. Людзі памятаюць, як паводзілі сябе гэтыя жаўнеры. Цяпер могуць казаць, што гэта былі служакі камунізму, але ваявалі яны з палякамі.

15 ліпеня ў гміне Посвентнэ быў адкрыты памятны абеліск у памяць пра 4 „выклятых жаўнераў": Рамуальда Райса „Бурага", Казіміра Хмелеўскага „Рэкіна", Уладыслава Лукасюка „Млота" і Люцыяна Мінкевіча. Помнік быў адкрыты пры ўдзеле чыноўнікаў, прадстаўнікоў Інстытута нацыянальнай памяці ды каталіцкага духавенства. Дзеянні Рамуальда Райса „Бурага" прызнаны Інстытутам нацыянальнай памяці злачынствам з прыкметамі генацыду.

— Правядзем рэгістрацыю ўсіх помнікаў на Беласточчыне, пастаўленых у гонар бязвінна загінулых з рук польскага ўзброенага падполля, у тым ліку і пад камандаваннем Рамуальда Райса (псеўданім „Буры"). У планах і кніга ўспамінаў пра пасляваенны перыяд на Беласточчыне — гэта тое, што можам рабіць, каб захаваць памяць пра нашу тут прысутнасць і ўшаноўваць памяць пра тых, хто заплаціў самую высокую цану за сваю беларускасць і праваслаўе, — кажа старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, прафесар Алег Латышонак. — Самае важнае для мяне як беларуса, каб нарэшце ўзніклі помнікі з беларускімі надпісамі. Гэтых людзей мардавалі дакладна за тое, што яны былі беларусамі. Пра гэта сведчаць лістоўкі, якія заставаліся на месцах спаленых вёсак. І таму, думаю, мусяць узнікнуць помнікі на беларускай мове, паколькі мы — духовыя нашчадкі тых людзей, якія загінулі як беларусы.

Сябры Беларускага гістарычнага таварыства ладзяць падарожжа крывавым шляхам Рамуальда Райса (псеўданім „Буры"), адказнага за смерць звыш 80 мірных жыхароў беларускіх вёсак і пацыфікацыі Вулькі-Выганоўскай, Залешан, Шпакоў, Заняў і Канцавізны ў канцы студзеня — пачатку лютага 1946 года. У 2005 годзе ІНП кваліфікаваў дзеянні атрада Рамуальда Райса як злачынства з прыкметамі генацыду.

Валянціна ЛАЕЎСКАЯ
Беларускае Радыё Рацыя





Сваімі вачыма

# Мяжа надзеі і грошай

Ой мяжа, мяжа. Колькі ты нерваў і пячонкі выядаеш турыстам і перасякаючым цябе пастаянна кантрабандыстам, прафесіянальным шафёрам. Колькі слёз, крыві і гарэлкі пралілося і праліваецца за шчаслівыя пераезды паміж суседнімі дзяржавамі... Ці ж наканавана быць вечна такому парадку паміж Усходам і Захадам Еўропы? Пісаў я і пішу пра мяжу з думкай пра шафёраў легкавушак. Зусім не разбіраюся ў сістэме працы, чакання і злосці шафёраў аўтафураў. Аднак калі бачу і чую камюніке пра іхнія чэргі і праблемы з праездам, то хіба нашы клопаты пры іхніх — усяго дробязь. Часамі жахліва глядзець на кіламетровыя чэргі, у якіх яны стаяць пакорліва ў чаканні даезду да мытнага кантролю. А потым гоняцца як шалёныя, каб не згубіць часу і грошай, прызначаных іхнімі фірмамі і заказчыкамі тавараў. Поўнае шаленства, якое вядзе да павышанай рызыкі ў дарожным руху. Кожны, хто падарожнічае па аўтадарогах, добра ведае, у чым праблема і небяспека з аўтафурамі. Тут грошы накручваюць кан'юнктуру для перавозак і біду для астатніх удзельнікаў дарожнага руху. Перавоз аўтафураў чыгуначным транспартам гэта адзін з магчымых варыянтаў аблягчэння такой складанай сітуацыі ў еўрапейскіх перавозах, таксама і ў экалагічным плане. Але тут не мне гэта рашаць ці выпраўляць. Бачыўшы аднак умовы, у якіх прыходзіцца праводзіць час на мяжы прафесіянальным шафёрам, словы спачування для іх — нармальная, чалавечая рэакцыя.

Добра падумаўшы, зараз для працуючых там памежнікаў і мытнікаў гэта таксама нялёгкі кавалак хлеба. Ясна, гэта яны ў нашым першым простым разуменні з'яўляюцца ўладарамі і амаль багамі памежнай зоны. Бо ж усё, што горшае і дрэннае нас там сустракае, непазбежна асацыюецца з іх працай і паводзінамі. Таму нічога дзіўнага, што мянушкі, якія атрымліваюць яны ад перасякаючых мяжу, падобныя да сябе на любым адрэзку ўсходняй мяжы. Часам нават падазраю, што туды пруцца працаваць асобы з нейкімі скрытымі псіхапатычнымі схільнасцямі, якім прыемнасць дастаўляе здзек і прыніжэнне чалавечай годнасці. Цікава, ці ў псіхатэстах перад прыёмам іх на службу даследуецца таксама іх стаўленне і эмпатыя да другога чалавека ва ўмовах стрэсавай працы? Мабыць, менавіта тут спрацоўвае адваротны гуманны дэвіз: больш эмпатыі — менш шанцаў на працу. З маіх шматгадовых назіранняў вынікае, што, на жаль, прадстаўніцы прыгожага полу з большай заядласцю не толькі правяраюць падарожнікаў, але і вельмі часта сваімі дзеяннямі і каментарыямі даводзяць людзей да слёз. Самае распаўсюджанае гэта звяртанне на «ты» да людзей падарожнічаючых з Усходу. «Тыканне» — гэта такое панскае і ўладарскае. «Я з Вамі на тычкі не хадзіў», — не пачуеце адказу на такія паводзіны памежных службоўцаў. Ніхто не пратэстуе, каб не нарабіць сабе клопату з перасячэннем мяжы зараз і на будучыя пераезды.

З другога боку забываем часта, што іхняя праца гэта вынік распараджэнняў, хай і сабе найбольш дурных, будучых вынікам палітычных і гаспадарчых войнаў і гульняў у сучасным свеце. А памежнікі і мытнікі натуральным чынам становяцца заложнікамі такіх распараджэнняў, якія часта мяняюцца, літаральна штомесяц. Памятайма, што мяжа гэта зона павышанай рызыкі карупцыі працуючых там людзей, якія не павінны дазволіць сябе перакупіць аматарам вялікага заробку ці абароту таварамі, часта нават такімі, якія нясуць пагрозу для жыцця людзей ці з'яўляюцца вынікам рабаўніцкай дзейнасці злачынных груповак. Добра сабе аднак усведамляем, што маштабныя, фінансавыя злачынствы на межах у рэальнасці ўзнікаюць дзякуючы перш за ўсё злачынцам у белых каўнерыках, якія дзякуючы недасканалым мытным законам і міністэрскім распараджэнням маюць магчымасць грабіць дзяржаву на мільёны еўра з належных ёй падаткаў. Не трэба далёка шукаць, дастаткова паглядзець, што дзеялася на заходняй польска-еўрасаюзнай мяжы з мытам на розныя групы паліва ці алкаголю. Якія патраты пацярпеў бюджэт і хто на гэтым нажыўся да канца ніколі не даведаемся. Бо мяжа гэта такія вялікія грошы, пра якія нам, паслухмяна там выстойваючым, цяжка ўявіць.

Яўген ВАПА

## XVI Белавежскія мастацкія інтэграцыі

# «Ператоча-2018»

Пятнаццаць гадоў назад адбылося першае «Ператоча», у час якога прэзентавалася культура нацыянальнасцей, што ў мінулым пражывалі на тэрыторыі Белавежскай пушчы і ў яе наваколлі. Паказ у адным месцы многіх культур быў у нас навінай. З гэтага часу штогод у ліпені каля сцэны белавежскага амфітэатра збіраюцца жыхары Белавежы, Гайнаўшчыны і турысты — айчынныя і замежныя, каб паслухаць песні і інструментальную музыку ды паглядзець танцы розных нацыянальнасцей. Падчас XVI Белавежскіх мастацкіх інтэграцый «Ператоча-2018», якія 27 і 28 ліпеня былі наладжаны ў Белавежы Фондам «Царкоўная музыка» з Гайнаўкі, у супрацы з Белавежскім асяродкам культуры і Лясным тэхнікумам у Белавежы, цікава запрэзентаваліся калектывы з Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы і Расійскай Федэрацыі, а канкрэтна з Рэспублікі Адыгея. Ужо традыцыйна большасць выступоўцаў складалі прадстаўнікі беларускай нацыянальнасці. Запрэзентавалі яны беларускія песні і народныя танцы. Падчас вучобы танцам розных народаў адбывалася таксама інтэграцыя са шматнацыянальнай публікай.

— Ператоча — месца перад токам у клуні, на якім у нас ладзіліся вясельныя і хрысцінныя гасцяванні і танцы. Нашае белавежскае «Ператоча» — сімвал гасціннасці і адкрытасці на розныя нацыянальнасці, якія пражывалі на тэрыторыі Белавежскай пушчы і ў яе наваколлі, іх культуру, мову і традыцыі, — заявіў Мікола Бушко, старшыня Фонду «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы, ініцыятар і галоўны арганізатар «Ператоча». — Мы стараемся кожны год запрэзентаваць прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей, іх песні, танцы і традыцыі, а таксама іх сучасную культуру. Ужо традыцыйна выступяць цікавыя калектывы нашага рэгіёна — з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы, Студыі песні Гайнаўскага дома культуры і з Ласінкі. Сучасную беларускую музыку запрэзентуе вядомы беларускі гурт «Ilo&Friends» з Беластока.

Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча-2018» пачыналіся 27 і 28 ліпеня прагулкай на брычках па Белавежы музычных калектываў, якія запрашалі публіку на прэзентацыю песень і музыкі. Са сцэны амфітэатра прагучала песня «Белавежская пушча», якая дала пачатак «Ператочу». Сёлетняе мерапрыемства адкрылі Мікола Бушко і дырэктар Белавежскага асяродка культуры Катажына Турасеньская-Дурлік. Паколькі ў Белавежскай пушчы і ў наваколлі па абодвух баках мяжы жылі і жывуць перш за ўсё беларусы, ажно шэсць выступаючых на белавежскай сцэне калектываў запрэзентавала беларускія песні і танцы. Падчас «Ператоча» выступы заказваюцца на дзвюх мовах — польскай і беларускай. Рэкламныя матэрыялы белавежскага мерапрыемства таксама выдаюцца на дзвюх мовах. Канферанс удала павёў журналіст Радыё Рацыя Радаслаў Дамброўскі. Прывітаў ён намесніцу старасты Гайнаўскага павета Ядвігу Дамброўскую і падзякаваў Старастве ў Гайнаўцы за дафінансаванне «Ператоча». Выступы на сцэне пачаў танцавальны калектыў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы з беларускіх народных танцаў у апрацоўцы мастацкага кіраўніка танцавальнага гурта Вольгі Вілюк. Разам з танцавальным калектывам выступіла Вераніка Пташынская, салістка белліцэйскай «Знічкі», якая праспявала беларускія песні і нават адзін танец калектыў станцаваў пад яе песню.

— Мы з беларускімі народнымі танцамі выступаем таксама па-за нашай школай. Сёння мы рады, што жыхары нашага рэгіёна і турысты так горача нам апладзіравалі. Мы запрэзентавалі народныя танцы «Лявоніха», «Вянок беларускіх танцаў», «Чаму ж мне не пець» і «Слуцкія паясы», станцавалі танец пад беларускую песню «Вясна», якую спявала Вераніка Пташынская і рускі танец «Барыня». Наш мастацкі кіраўнік Вольга Вілюк умее прыцягнуць штораз новых асоб да нашага калектыву і стварыць сямейную атмасферу. Яна таксама патрабавальная ў адносінах да нас і ўмела вучыць нас розным дэталям беларускіх народных танцаў. Мы хацелі аб'явіць конкурс у нашай школе на выбар назвы для танцавальнага калектыву, які некаторыя называюць «Знічкай», а гэта ж вакальны калектыў. Арганізатары «Ператоча» назвалі наш калектыў «Беларусамі», бо так традыцыйна называюць наш ліцэй і гімназію. Можа прымем такую назву, але для гэтага патрэбнае супольнае рашэнне, якое прымем пазней, — гаварылі Марта Несцярук і Карнелія Барэчка.

— Я рада, што публіка так прыхільна ўспрыняла выступы нашых дзяўчат з танцавальнага калектыву. Я падбіраю нашы народныя танцы і апрацоўваю харэаграфію прыстасаваную для патрэб вучнёўскага калектыву.Сёння мы запрэзентавалі таксама расійскі народны танец «Барыня». Наш калектыў дзейнічае з лютага мінулага года. З калектыву адышлі выпускніцы белліцэя. Я рада, што адзін хлопец пачаў танцаваць разам з дзяўчатамі. Назва «Беларусы», якую сёння нам запрапанавалі арганізатары «Ператоча», адлюстроўвае школу, у якой дзейнічае наш калектыў і клімат беларускіх народных танцаў, якія мы прэзентуем. Аднак назва павінна падыходзіць перш за ўсё ўдзельнікам нашага калектыву, — сказала мастацкі кіраўнік танцавальнага калектыву Вольга Вілюк.

Дам'ян Данілюк заявіў, што сам хацеў стаць членам танцавальнага калектыву і не перашкаджае яму, што танцуе як адзіны хлопец сярод дзяўчат. Танцор спадзяецца, што за яго прыкладам могуць пайсці іншыя хлопцы і іх колькасць у танцавальным калектыве пабольшае.

— Мы працавалі раней, каб падрыхтаваць гэтае месца для правядзення музычнай імпрэзы. Зараз усё арганізуе Фонд «Царкоўная музыка». Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча» гэта цікавая імпрэза, падчас якой прэзентуюцца песні і культура розных нацыянальнасцей. Жыхарам Белавежы і турыстам цікава пазнаёміцца з музыкай розных народаў. Школьны калектыў «Сунічкі», якім займаемся супольна з Анджалінай Масальскай, раней выступаў у час «Ператоча», а сёлета мы паказаліся на «Купаллі», — сказаў Марк Зубрыцкі, музычны інструктар Белавежскага асяродка культуры. У якасці мастацкага кіраўніка працуе ён яшчэ з беларускімі калектывамі «Ручаёк» у Белавежы і «Жаваранкі» ў Махнатым, якія ў мінулых гадах таксама выступалі на «Ператочы».

Другім па чарзе выступіў Калектыў народнага танца «Астралэнка» з Астралэнкі. Арганізатары мерапрыемства запрапанавалі публіцы павучыцца двум народным — беларускаму і польскаму — танцам. Першапачаткова ўдзельнікі танцавальных калектываў і публіка вучыліся танцаваць беларускую «Лявоніху». Пазней ахвотныя вучыліся танцаваць польскі танец «Фаруля». Кароткія майстар-класы па беларускім і польскім танцам атрымаліся паспяхова.

Публіку захапіў сваім выступам беларускі гурт «Ilo&aFriends» з Беластока.

— Я апошнім часам штогод прыязджаю з сям'ёй на белавежскае «Ператоча». Мне падабаецца атмасфера шматкультурнага музычнага мерапрыемства. Тут можна паслухаць цікавыя народныя і сучасныя песні, інструментальную музыку, паглядзець народныя і сучасныя танцы. Я рада, што сёння падчас «Ператоча» магу выступіць з калектывам. Цікаўлюся рознымі плынямі ў музыцы і гэта можна будзе заўважыць падчас нашага выступу на сцэне, — сказала вакалістка калектыву «Ilo&Friends з Беластока» Ілона Карпюк-Дамброўская.



Калектыў песні «Церніца» з Мінска



Публіку «Ператоча» захапілі калектывы «Гармонь» з Ласінкі і «Пульс» Студыі песні Гайнаўскага дома культуры, якія спявалі на беларускай і іншых мовах. Беларусам Беласточчыны ўжо вядомы Вакальна-харэаграфічны казацкі калектыў «Бацька Атаман» з Мінска (Беларусь), якога эмацыйны выступ вельмі спадабаўся белавежскай публіцы. Цыганскую музыку і культуру цікава запрэзентаваў калектыў «Цыганская падкова» з Кіева (Украіна), а яўрэйскую музыку ўдала паказаў калектыў «FreyLech Trio» з Беластока. Польскую музыку і культуру цікава запрэзентавала паланійная капэла «Судэрвяне» з Судэрвы ў Літве. Рэгімантас Шылінскас з Паневежа (Літва) запрэзентаваў інструментальную літоўскую музыку на «скрабаляі» — арыгінальным драўляным інструменце, які складаюць драўляныя званкі. Сусанна Яра нарадзілася ў Пачаеве на Украіне, куды якраз у час «Ператоча» ішло вялікае пешаходнае паломніцтва з Гайнаўкі, каб там прыняць удзел у святкаваннях у гонар Пачаеўскай іконы Божай Маці. З 1992 года Сусанна Яра жыве ў Польшчы і як прадстаўніца Кракава займальна запрэзентавала са сваім калектывам лэмкаўскую музыку. Цікава і арыгінальна з музыкай і танцамі выступіў Танцавальны калектыў з капэлай традыцыйных інструментаў «Ошад» з Майкопа, сталіцы Рэспублікі Адыгея. Прыехаў ён у Польшчу на фестываль «Падляшская актава культур» і гасцінна выступіў на «Ператочы». Па-акцёрску выступіў і захапіў публіку Заслужаны калектыў песні Рэспублікі Беларусь «Церніца» з Мінска.

— Мы прэзентуем беларускія народныя песні ў нашай апрацоўцы і аўтарскія беларускія творы. Многа мы выступалі за мяжой, дзе беларускія песні і культура высока цэняцца. Перш за ўсё спяваем па-беларуску, але таксама выступаем на польскай, расійскай, украінскай і яўрэйскай мовах, — сказаў мастацкі кіраўнік «Церніцы» Язэп Несцяровіч.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Варта ведаць...

З 25 траўня 2018 года абавязвае закон RODO, інакш кажучы распараджэнне Еўрапейскага парламента і Рады Еўрапейскага Саюза № 2016/679 ад 27 красавіка 2016 года аб ахове фізічных асоб пры апрацоўцы персанальных даных і аб свабодным абароце такіх даных. Як гэта маецца да штодзённага жыцця звычайнага грамадзяніна? Пакарыстаюся прыкладам амбулаторыі ў Чаромсе.

Раней, калі пацыент падаваўся да лекара, дык у рэгістрацыі прад'яўляў сваё імя і прозвішча, затым нумар картатэкі. Медсястра падымала карту, адкладала на бок, а пасля ўсе выбраныя карты перадавала лекару. Паводле такой чарговасці лекар выклікаў пацыентаў на абследаванне. Зараз справа інакш маецца. Хворы абавязаны прад'явіць у рэгістрацыі пашпарт. Медсястра выконвае камп'ютарную рэгістрацыю заносячы нумары PESEL і пашпарта, затым падняўшую карту адкладае на бок. Пасля ўсе разам заносіць у кабінет лекару, а гэты па чарзе выклікае пацыентаў на абследаванне.

Падобна справа маецца з пацыентамі, якія хочуць паўтарыць лекі. Пасля камп'ютарнай рэгістрацыі медсястра выпісвае лякарства, а рэцэпт заносіць лекару для акцэптацыі. Гэты завярае рэцэпт сваім подпісам і пячаткай, затым рэцэпт перадае пацыенту. Калі хворы не ў змозе асабіста прыехаць у амбулаторыю, дык піша заяву і перадае паўнамоцтвы іншай асобе. Дэкларацыя застаецца ў картатэцы пацыента. На квітанцыі прыёму рэцэпта распісваецца асоба з паўнамоцтвамі, якая прад'явіла свой дакумент. Заява аб паўнамоцтве застаецца ў актах хворага і дзейнічае на іншыя асобы, якія будуць паўтараць лякарства на таго ж хворага.

Зараз трэба ведаць, што абавязкова трэба браць з сабою пашпарт.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Лекавыя зёлкі

Восем гадоў працуе пункт скупкі лекавых зёлак суполкі з а.а. „Руно" ў Прэнтах Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Вядзе яго Вера Лукашук. Яшчэ зёлкавы сезон у разгары. Зёлкі збіраюць і прыносяць жыхары Альхоўкі, Пасек, Прэнтаў, Леснай, Семяноўкі, Масева, Міклашэва і Баб'яй Гары.

Сёлетнія цэны за кілаграм сушанага зелля: крапівы — 2,50 зл., сніткі — 3 зл., святаянніку — 3,75 зл., амялы — 2 зл., марэны — 25 зл., сумніку — 5 зл., баркуну — 4 зл., палыну — 6 зл., гладуну — 12 зл., крынічніку — 14 зл., дзярачкі — 4,50 зл., гусялапкі — 16 зл. і сярэбранніку — 11 зл.

Цяпер за кілаграм сушанага лісця блюшчу плацяць 8 зл., брушніцы і трыпутніка — па 12 злотых, крапівы — 8,40 зл., маліны — 6,30 зл., ажыны — 7 зл., бярозы — 4 зл., ліпы — 3 зл., мядункі — 15 зл., падбелу і суніцы — па 10 зл., адуванчыка — 7 зл. ды за карэнне крапівы — 6 зл., пяцёрніку — 13 зл., лопуху і адуванчыка — па 12,60 зл. ды жывакосту — 8 зл., а за цвет агаткі — 10 зл., дзіванні і фіялкі — па 35 зл., чырвонай канюшыны — 20 зл., крываўніку — 8,40 зл., ліпы — 35 зл., парыла — 12 зл., пялёсткі ружы — 30 зл. і — за вельмі ж дробны цвет глухой крапівы — 180 зл.

За кілаграм сушанай кары крушыны плацяць 4 зл., вярбы — 2,20 зл., дуба — 2,50 зл., ліпы — 4,50 зл. і каліны — 14 зл.

Дык збірайма зелле, цвет, лісце, кару і карэнне.

## Фэст у Семяноўцы

9 жніўня гэтага года традыцыйна ўжо адбудзецца беларускі народны фэст у Семяноўцы Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. На сцэне выступяць вакальна-музычныя калектывы „Зорка" з Беластока, „Сэвен" з Бельска-Падляшскага, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова і „Гармонь" з Ласінкі (Нарваўская гміна). Пачатак мерапрыемства а гадзіне 17-й.

Фэст арганізуюць Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. Арганізатары ветліва запрашаюць. **(яц)**







## Фольк у Міхалове

1 ☞ працяг

Прайшоў конкурс на самую цікавую цішотку з беларускімі ўзорамі, якую шматлюдна выконвалі і малодшыя ўдзельнікі і дарослыя розных прафесій (між іншым акцёр з Варшавы), паводле ўзораў ды больш адвольна, а таксама конкурс на верш пра фэст на беларускай мове — перамагла ў ім Люба Саковіч з Юшкавага Груда. Паказвалі сваю творчасць вядомыя рукадзельніцы — Анна Кузьма з Міхалова і Галіна Бірыцкая з Плянты, сярод прац якой паявілася таксама вопратка з беларускімі ўзорамі.

— Зоркамі мерапрыемства сёлета лічацца перш за ўсё Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі «Свята» з Беларусі і польскі гурт «Рэдлін», — казаў Марыюш Харужы. — Заўсёды запрашаем зорку з Польшчы. Імпрэза з'яўляецца святам перш за ўсё нашых беларускіх калектываў. Нашы зоркі — гэта «Расспявана Гарадок», «Асенні ліст», «Хутар» з Гарадка, «Ластаўка» з Рыбалаў, «Лайланд» з Грабаўкі, новыя «Фенікс» і «Чырвоныя шпількі» з Міхалова, дзе спяваюць ужо сем'ямі перш за ўсё беларускі фальклор.

Гурты, дзе спяваюць сем'і і сябры — дзяўчаткі з калектыву сясцёр Астапчук з Грабаўкі, дочкі Багдана Астапчука з «Лайланда», «Чырвоныя шпількі» з Магдай Юрчук і яе дачушка салістка Аксана Юрчук, Оля Яроцкая і браты Цэзар і Адрыян Данілюкі ды Наталля Алексяюк ці Адзі Ягораў, або сямятыцкі «Аморфас», дзе спяваюць маці з дачкой і сяброўкі — сапраўды, выклікалі фурор і атмасферу сяброўства, прыязні, свойскасці. Яшчэ адна «бяседа», «гасцёўня», «патанцоўка» для радні, сваякоў, землякоў.

А скуль гэты «Мікрон», якому падыгрывае Віктар Маланчык? Новы гурт, ды знаёмыя твары! — адразу зразумела: відаць тут Алёшу Харкевіча, юрыста і спартсмена родам з Лешукоў, які дзейнічае ў жыллёвым кааператыве БСМ у Беластоку, у клубе «Мікрон», які «апанавалі» беларусы і вядуць там актыўную культурную, адукацыйную і вось спявацкую дзейнасць! Адтуль тут такая энергія — на ўсім мерапрыемстве: гуляюць «нетузінковыя», а такія звычайныя, для якіх і спяваць родную песню — як дыхаць на поўныя грудзі!

... Былі і шматлікія конкурсы з узнагародамі ад спонсараў мерапрыемства, перш за ўсё ад вытворцаў згушчанага малака і іншых малочных прадуктаў з Гостыні, якія прыслалі сваю забаўляльную музычную праграму з выдатным акцёрам, спеваком і кабарэтнікам Робертам Розмусам, што выклікала захапленне перш за ўсё наймалодшых удзельнікаў фэсту, якія шматлюдна прымалі ўдзел у конкурсах. Кожны калектыў атрымаў таксама адмысловую падзяку за ўдзел у Беларускіх фольк-сустрэчах у Міхалове ў выглядзе керамічнай статуэткі з вывай сонца, якая з'яўляецца лагатыпам мерапрыемства (сонейкі выраблены і спечаныя ў вёсцы Саколе). Сонечна, радасна, па-свойму!

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

## Свята фальклору ў Нараўцы





Свята фальклору пад лозунгам „Падляшская актава культур" праходзіла на Беласточчыне. На ім можна было захапляцца спевамі, музыкай, танцамі і абрадамі розных краін свету. На Беласточчыну прыехала 28 фальклорных калектываў з адзінаццаці краін.

28 ліпеня гэтага года пры цёплым сонечным надвор'і над ракою ў амфітэатры ў Нараўцы Гайнаўскага павета выступілі два вакальна-танцавальныя калектывы „Дэтва" са Славакіі і „Актавіс" з Балгарыі — лепшыя з гэтых краін свету. У мінулым годзе былі таксама два з Літвы і Босніі.

Мерапрыемства вяла Кася Бяляўская, старшая інструктарка Нараўчанскага асяродка культуры. У Нараўцы было гучна і калярова ад разнаколерных нацыянальных касцюмаў. На сцэне звінела цікавая, незвычайная для нашага вуха музыка ды віравалі віхурыстыя танцы.

Калектывы прыгожа спявалі і танцавалі (песні і танцы ўвесь час перапляталіся), а ўжо асабліва звонкія моцныя галасы мелі салісткі з абедзвюх краін. Шкада, што слоў мы не разумелі. Можа толькі некаторыя і то я няўпэўнены. Кожны калектыў выступаў з гадзіннай праграмай. Асаблівыя воплескі атрымалі балгарскія танцоры і танцоркі. Яны апошні танец на нараўчанскай сцэне выканалі на біс.

Імпрэзу, як і ў папярэднія гады, арганізавалі Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку ды Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

25 гадоў таму адбыўся Першы з'езд беларусаў свету

# Ганна Сурмач – У 1993 годзе старшыня Рабочай групы па падрыхтоўцы З'езду і сябра Рады ЗБС „Бацькаўшчына"



Ганна Сурмач на Першым з'ездзе беларусаў свету

**— На Вашыя плечы легла асноўная праца па падрыхтоўцы Першага з'езда. Раскажыце, калі ласка, пра асноўныя выклікі, праблемы, якія дзеля гэтага давялося пераадолець.**

— Так, я мела вялікі гонар узначаліць Працоўную групу па падрыхтоўцы правядзеньня Першага зьезду беларусаў сьвету. Тады ўсе ў беларускім грамадзтве адчувалі вялікі патрыятычны ўздым, сябры ЗБС „Бацькаўшчына" гатовыя былі працаваць дзень і ноч. Не стала савецкай імпэрыі, на ейных абломках трэба было будаваць сваю незалежную краіну. Мы даведаліся шмат праўды з гісторыі Беларусі — пра пастаяннае змаганьне нашага народу за свабоду, пра вынішчэньне і расьсейваньне па сьвеце беларускай нацыі. Тая група беларускай інтэлігенцыі, якая заклала зусім новую па сваёй ідэі беларускую арганізацыю — Згуртаваньне беларусаў сьвету „Бацькаўшчына" — мела на мэце аб'яднаньне беларусаў, якія жывуць на Радзіме і па ўсім сьвеце. Дагэтуль ніхто такой мэты не ставіў. Гэта быў выклік часу, актуальная праблема: аб'яднаць сілы дзеля адраджэньня незалежнасьці нашай краіны. Трэба было нарэшце пераадолець гэты штучна створаны савецкімі ўладамі раскол, калі замежныя беларусы лічыліся ворагамі і з імі нельга было падтрымліваць кантакты, нават калі гэта была блізкая радня. Нам трэба было дапамагчы замежным суродзічам пазбыцца страху быць арыштаванымі пры наведваньні Бацькаўшчыны.

Дзеля таго, каб беларусы маглі сустрэцца разам, непасрэдна, на бацькоўскай зямлі, паціснуць руку адзін аднаму, паглядзець у вочы, усьміхнуцца і адчуць сваю нацыянальную еднасьць, — і было задумана правесьці гэты ўсебеларускі сусьветны форум — Першы зьезд беларусаў сьвету. І ён стаўся менавіта такім. Але арганізатарам давялося шмат папрацаваць: трэба было ў розных краінах адшукаць суродзічаў, іх адрасы, даслаць запрашэньні, пераканаць, што яны бясьпечна могуць наведаць Беларусь. Пры гэтым калі мы давалі такія абяцаньні, то самі адчувалі занепакоенасьць: а раптам здарацца нейкія правакацыі? Падставы так думаць былі, бо да мяне асабіста званілі ветэраны вайны, выгаворвалі за тое, што мы запрашаем „здраднікаў" і нават пагражалі.

Мы супрацоўнічалі з дзяржаўнымі структурамі, якія падтрымалі ідэю правядзеньня Зьезду. Але поўнага паразуменьня ў гэтай справе быць не магло, бо ўлада ў Беларусі не была яшчэ цалкам беларускаю. Уладныя структуры мелі свае мэты адносна Зьезду і самі імкнуліся кіраваць форумам, хаця гэта была цалкам грамадзкая ініцыятыва. Фінансаваўся Зьезд сродкамі ЗБС „Бацькаўшчына", хаця і з удзелам дзяржавы, якая аплочвала пераважна культурніцкія мерапрыемствы. Мы мелі засьцярогу, што ўлады паспрабуюць арганізаваць на Зьездзе перадачу мандатаў БНР ураду Кебіча (як падобнае адбылося ва Украіне), бо не мелі даверу да тагачаснай улады, не верылі што яна здолее адбудаваць незалежную беларускую дзяржаву, што і падцьвердзілася ў далейшым. Зьезд праходзіў у даволі неспакойнай для арганізатараў сытуацыі, хаця гэта не было заўважна гасьцям. Прынамсі, да заключнай яго часткі, калі ўлады беспасьпяхова паспрабавалі расколоць Зьезд. У цэлым — прадугледжаная намі праграма была выкананая. Форум пасьпяхова адбыўся і стаўся знакавай падзеяй у сучаснай беларускай гісторыі. І самае галоўнае тое, што распачаты ім працэс яднаньня беларусаў сьвету стаў разьвівацца, набіраць моц і працягваецца дасёньня.

**— З'езд прайшоў у вельмі спрыяльных для дзейнасці Згуртавання варунках, з ім было звязана і ім было спароджана шмат планаў і надзей. Што атрымалася ажыццявіць, а што — не?**

Атрымалася галоўнае — ідэя аб'яднаньня беларускай нацыі ў межах сусьвету пачала ўвасабляцца, стала неад'емнай часткай сучаснай гісторыі краіны. Мая кніга „Беларусь бязь межаў" ілюструе сутнасьць і вынікі гэтага працэсу. Разьвіцьцё беларускай нацыі не абмяжоўваецца дзяржаўнымі межамі Рэспублікі Беларусь, яно адбываецца ўсюды, дзе жывуць нашыя суродзічы. Яны цяпер не ізаляваныя, не аддзеленыя ад Бацькаўшчыны. Нацыя разьвіваецца не сама ў сабе, але таксама пад уплывам агульнацывілізацыйных працэсаў, якія адбываюцца ў сьвеце. Праз нашых суродзічаў з розных краінаў мы можам вучыцца, здабываць вопыт іншых нацый і пераймаць лепшае.

Што не ажыцьцявілася, дык гэта тое, пра што мы марылі і дзеля чаго трэба было аб'ядноўвацца. Мы пакуль што не маем беларускай па духу ўлады, маем незалежнасьць дэ-юрэ, а дэ-факто — па-ранейшаму залежым ад суседняй Расеі. Мы не маем дэмакратыі і свабоды ў Беларусі, дзе не забясьпечваюца элементарныя правы чалавека — права на свабоду выбараў, свабоду голасу, на эканамічную свабоду. Па ўсіх гэтых прычынах Беларусь для сваіх сыноў і дачок не ёсьць той Бацькаўшчынай, якая клапоціцца пра сваіх дзяцей. Не падтрымліваюць сёньняшнія ўлады Беларусі і беларускую дыспару такім чынам, як гэта робяць цывілізаваныя краіны.

**— Зараз Вы жывеце ў ЗША. Якой сёння бачыцца дзейнасць Згуртавання здалёк? Што, на Ваш погляд, можна было б зрабіць больш эфектыўным?**

— Так, я жыву ў Амэрыцы — вымушаная была стаць эмігранткаю менавіта з названых вышэй прычынаў. Так што маю досыць вялікі вопыт жыцьця як у мэтраполіі, гэтак і ў дыяспары, ведаю сытуацыю знутры і з абодвух бакоў. Гэта дапамагае мне сёньня актыўна ўдзельнічаць у беларускім жыцьці на эміграцыі. Цягам амаль дваццаці гадоў на чужыне я ніводнага дня не жыла без вестак з Беларусі, ніколі не перапыняла сваю грамадзкую беларускую працу і буду ёй займацца пакуль хопіць сілаў і часу жыцця. Таксама я не перапыняла сувязяў і працоўных кантактаў з дарагім мне Згуртаваньнем беларусаў сьвету „Бацькаўшчына". Глыбока перажываю за ўсіх, хто там працуе, спачуваю вашым цяжкасьцям і праблемам, якія мы тут усе добра разумеем.

Самае галоўнае: ад часу Першага зьезду і ў бліжэйшай перспектыве праца з дыяспарай — гэта абавязак дэмакратычнай грамадзкасьці Беларусі. Бо дзяржаўныя ўлады разглядаюць сувязі з дыяспарай аднабакова, жадаюць, каб яна іх падтрымлівала. Але дыяспара жыве пераважна ў цывілізаваным дэмакратычным сьвеце і не можа прыняць антыдэмакратычнай, антынацыянальнай палітыкі ўладаў Беларусі. Найперш працаваць з дыяспарай і надалей павінна ЗБС „Бацькаўшчына", у гэтым яе місія. Галоўная стратэгія — захоўваць ідэю і саму арганізацыю. А тактыка — рабіць, што магчыма, у гэтых цяжкіх умовах. Выглядае, што можна шмат чаго рабіць праз інтэрнэт, працягваць выдаваць бюлетэнь „Беларусы ў сьвеце" — ён добра чытаецца ў замежжы. Цяжка сказаць нешта больш канкрэтнае. Не будзем траціць надзеі на лепшыя часы.

Ад сябе вельмі хачу падзякаваць усім сябрам ЗБС „Бацькаўшчына", асабліва кіраўніцтву і выканаўчаму персаналу, за карпатлівую працу, за адданасьць нашай ідэі, нашай надзвычай важнай справе. З удзячнасьцю згадваю ўсіх сваіх сяброў і паплечнікаў, з кім мы ладзілі той першы сусьветны форум беларусаў. Іх імёны згаданыя ў кнізе „Першы зьезд беларусаў сьвету", якую ў мяне атрымалася падрыхтаваць і выдаць яшчэ да ад'езду ў эміграцыю. У кнізе апісаная ўся гісторыя гэтай надзвычайнай падзеі.

**Гутарыў Сяргей Кандраценка, прэс-сакратар ЗБС „Бацькаўшчына"**
**https://zbsb.org/**

## Рачулкі павінны плысці і плысці

Зараз маем сухое лета і мала вады ў рэках і малых рачулках у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. Некаторыя з іх меліяравалі і на меліярацыйных равах пабудавалі міні-плаціны, каб падчас працяглае сушы вяснной і летняю парою частку вады затрымліваць і пасля яе спускаць. А бывае і так, што г.зв. запоры-заставкі апусцілі, плынь рачулкі затрымалі і ваду адсюль не адпускаюць.

Ніжэй запораў застаецца крыху вады толькі ў ямінах і яна стаячая ў некаторых месцах. Вада ў рачулцы і яе прытоках награваецца падчас летняй спёкі. Рачышча становіцца сухое, рачулка мялее, мялее і пачынае заміраць у ёй жыццё водных раслін, гіне небагатая фаўна. Да такой экалагічнай катастрофы нельга дапусціць.

У Нараўчанскай гміне многа гадоў дзейнічае Водная суполка „Лазовае" і яна павінна неадкладна правяраць, у якіх месцах на рачулцы мясцовыя сяляне затрымалі ваду на Баброўцы (тут калі рэчка была рэчкай, а не ровам, вяліся бабры) і яе не адпускаюць праз увесь час сушы. Робяць яны так не ўпершыню, а штогод, калі толькі ўзровень вады ў рачулцы паменшае. Але цяпер гэта асабліва адчуваецца. Вада нават у малых рэках павінна свабодна плысці. Яны не чыясьці ўласная маёмасць, а ўсіх нас.

Я помню такое здарэнне, а было гэта нядаўна, што адзін наваляўковец частку Баброўкі, там дзе меў сваю пашу, загарадзіў калючым дротам. Калі бліжэй невядомыя работнікі абкошвалі берагі, яны раскінулі загараду і выцягнулі слупкі з берагоў. Ён хадзіў са скаргай на касцоў, між іншым, да солтыса, і тады даведаўся, што ён зрабіў незаконна, бо так нельга. Гэтага забараняе воднае права. Ці хто правучыць тых, як у нас называюць, „балотных інжынераў", якія ў летнім сезоне тармозяць ваду ў рачулцы выключна ў сваіх прыватных мэтах? Робяць гэтак, каб іх сенажаці не ператваралі ся ў стэп або, каб было выгадна паіць статак кароў і іншую хатнюю жывёлу.

## Смецце на прыпынку

Мы цешымся, што да нас, у Нараўчанскую гміну, прыязджаюць турысты. Іх з кожным годам больш. Зараз не цешыць, калі яны засмечваюць нам вёскі. Вечарам у нядзелю, 22 ліпеня гэтага года прывезлі яны на аўтобусны прыпынак ПКС у Новым Ляўкове смецце і ўсялякую іншую непатрэбшчыну ў прыгожых упакоўках. На гэтым аўтобусным прыпынку (ён знаходзіцца побач скрыжавання ваяводскай і паветовай дарог) стаіць прыгожы прыстрэшак і памаляваны на аранжавы колер бляшаны кош на смецце. Прывезеныя ўпакоўкі са смеццем у кош не змясціліся і іх от так пакінулі на бетонных плітках.

Ехаў я ўжо прыцемкам на ровары, глянуў у бок прыстрэшка і ў першую хвіліну падумаў, што нейкі п'яніца ў белай кашулі зваліўся з лавачкі і так сабе на баку адпачывае. Такое тут раней неаднойчы здаралася. Пад'ехаў бліжэй і ўсё стала ясна. Падвезлі нам смецце. А ў нас свайго ж хватае. Дадам, гэта не першы такі выпадак. Было так і мінулай восенню, і зімой. У Гміннай управе ў Нараўцы пра гэта ведаюць.

Смецце ляжала ды ляжала. На трэці дзень я, заадно солтыс і радны, пазваніў у Гмінную ўправу ў Нараўцы і папрасіў прыбраць упакоўкі са смеццем у маёй роднай вёсцы. Абяцалі, што забяруць як не сёння, 25 ліпеня, то заўтра, 26 ліпеня г.г. 25 ліпеня смецця не прыбралі, мабыць, зробяць гэта заўтра. У гэтым я ўпэўнены.

Турысты, айчынныя і замежныя, вы ж дарослыя людзі, дык будзьце людзьмі. Дзе ж ваша добрае выхаванне? У тым выпадку вы ствараеце нам, жыхарам прыгожай Нараўчанскай гміны, клопат і, што не кажы, дадатковы расход з гміннага бюджэту. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі






мал. Магды Люнды

# Вясёлы вечар

Спаборніцтва на жарты і вясёлыя гісторыі — гэта была задача для ўсіх рэдакцый.

Пачаткі былі цяжкія, але ў рэшце рэшт нешта пачало круціцца.

Пасярэдзіне пляцоўкі гарэла вогнішча. Мы падрыхтавалі сцэнкі і песні. Рэдакцыя «Белага лесу» прыдумала «Падляшскае вяселле» з танцамі. У ролі маладой выступіў Кандрат. Ён рассмяшыў усіх сваёй ігрой і фрызам, выкананым з туалетнай паперы.

Другая рэдакцыя паказала скетч пра вучня-індывіда. У гэтай ролі бліснуў Марцін, які да гэтай пары баяўся гаварыць па-беларуску. Дзякуючы скетчу, ён пачаў жартаваць і даказваць,

Усе смяяліся і білі брава!

«Белы лес» у сваю чаргу паказаў, сцэнку пра школу. Тут праявіў здольнасці наймалодшы ўдзельнік Мікола Абрамюк. Мікола выступіў у ролі вядучага і без памылак гаварыў доўгія і вясёлыя дыялогі. У гэтай ролі ён напамінаў сапраўднага прафесара.

Пасля нашы тры сяброўкі: Вікторыя, Магда і Паўліна праспявалі патрыятычныя і жартоўныя песні. Пад іх уплывам Мікола з Кандратам, танцоры са славутага «Падляшскага вянка», кінуліся ў скокі. Яны пад воплескі публікі дынамічна станцавалі «Лявоніху», ажно трава дрыжэла. Усе, хто хацеў, мог заспяваць песню або расказаць анекдот.

Галоўны прыз атрымала першая група. «Падляшскае вяселле» журы аднагалосна палічыла самай смешнай і жыццярадаснай сцэнкай. Узнагародай быў ананас, які мы супольна з'елі.

(паводле газеты «Белы лес»)

## Смяшынкі газеты «Бусел»

Толік упершыню пакаштаваў банан. Назаўтра дзед прынёс ананас, якія Толіку спадабаўся яшчэ больш.
На наступны дзень ён спытаў:
— Дзядуля, ты прынёс мне бананас?

* * *

Кася ўбачыла прыгожага матылька і крычыць:
— Глядзіце, глядзіце! Матылёк расцвіў!

Іван Карсунскі,
«Нараўчанская ластаўка»,
НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Бульба

Бульба смачна
ляжыць на стале,
бульба сытна
расплываецца ў роце.
Перад тым як на стол папала,
доўга яна сябе рыхтавала.
Спачатку яна бульбінкай была,
потым карані пусціла і яшчэ
крыху папіла, падрасла.
Яе бабка вырвала з зямлі,
потым у гаршчок паклала,
і на абед для сям'і зварыла.

## УВАГА КОНКУРС! № 32-18

Над лугамі, над палямі,
плачуць доўгімі слязамі.
Бульба, травы і жыты
Часта слёз чакаюць тых.
Х.... і д....

(Міхась Пазнякоў)

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 19 жніўня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 28-2018: гарлачык. Узнагароду, кніжку Надзеі Ясмінскай „Сем ружаў", выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Мае першыя ўспаміны звязаныя з прыродай

*Інтэрв'ю з Мірай Лукшай, журналісткай «Нівы», аўтаркай кніг паэзіі і прозы, лаўрэаткай Прэміі прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага за 2017 год.*



**«Нараўчанская ластаўка»:**
**— Ці ў Вас ёсць месцы, у якіх пішацца найлепш?**

Міра Лукша: — Цяжка сказаць. Я думаю, што мне добра пішацца ў рэдакцыі «Нівы», дзе сядзім побач з Ганнай Кандрацюк-Свярубскай. Можам пераказаць адна адной думкі. Гэта мой куточак. Праўда, там многа маіх папераў, тэкстаў нашых карэспандэнтаў, вершы, што прыходзяць у «Ніву», нейкія кніжкі. Многа там памятак, таму што я вельмі прывыкаю да рэчаў. І калі мой стары доўгапіс пісаў са мной верш і выпісаўся, я яго не выкідаю. Мне яго шкада. Я прывыкаю да рэчаў, да людзей, да месцаў.

І тое месца, вось, у рэдакцыі «Нівы» добрае. Там сапраўды могуць гарматы страляць, калі я пішу, але я працую далей...

І ў нас кожны працуе, клякочуць камп'ютары, звоняць тэлефоны. Ганна, калі піша, бывае, што спявае песні. Так, што такі прыемны, я думаю што творчы, у нас настрой...

У хаце, часам прачнуся ноччу, пішу. У лесе дзесьці прысяду, часам штось на сурвэтцы ў кавярні напішу. Калісь на вёсцы таксама пісала. У такім вялікі пакоі, дзе было многа паветра і віселі іконы. Так што гэтыя месцы бываюць розныя. Калі прыйдзе натхненне, месца становіцца менш важным.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Калі Вы пачалі пісаць? Ці ў Вас была асоба, якая натхняла да пісання?**

Міра Лукша: — Я пачала пісаць у пачатковай школе ў Семяноўцы і паслала вершы ў «Ніву». Там друкаваліся яны ў «Парнасіку» — рубрыцы, дзе публікавалі творы маладых аўтараў і дэбютантаў у розным узросце. Памятаю, гэта было сорак пяць гадоў таму. А натхняла мяне мая настаўніца, Марыся Вілюк. Яна паказала, што кожны можа спрабаваць сваіх сіл і пачаць пісаць.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Вы вяртаецеся да сваіх родных куточкаў, у Баравыя?**

Міра Лукша: — Вяртаюся, хаця я цяпер радзей бываю. Прыходзяць у гэтае месца лані, ласі і дзікі. Мая Бацькаўшчына — цікавае месца. Нараўчанская гміна поўная магіі.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Ці Вы чыталі вершы ў нашым узросце?**

Міра Лукша: — Так, чытала я вершы. Апрача гэтага я мела такі сшытак і ў ім запісвала вершы, якія мне спадабаліся. Гэта быў мой таемны сшытак. Я нікому яго не паказвала.

**«Нараўчанская ластаўка»:**
**— А ці прырода, запамятаная з часоў дзяцінства, натхняла Вас да пісання ў дарослым жыцці вершаў пра звяроў? Ці яна адлюстраваная ў томе «Жывінкі з глыбінкі»?**

Міра Лукша: — Мае першыя ўспаміны звязаныя менавіта з прыродай. Дзіця бачыць з меншай адлегласці, без дыстанцыі. Памятаю, як мама завіхалася на полі каля лёну, а я сядзела і глядзела на мурашкі і розныя кузачкі. Іх свет быў для мяне загадкавы. Мне хацелася з імі пагаварыць. Памяць пра такія моманты жывая і дапамагае пісаць.

**«Нараўчанская ластаўка»:**
**— Пра што Вы думалі, пішучы верш «Мядзведзь з Мядзвядзёў»?**

Міра Лукша: — Я сама Мядзвядзянка. Мая бабуля з сям'і Мядзведзь. У вёсцы ўсе маюць прозвішча Мядзведзь. Калі я адкрыла гэты факт, тады аказалася, што там жыве мой літаратурны «Мядзведзь з Мядзвядзёў». Гэта кароткі вершык, але хацелася мне яго напісаць.

**«Нараўчанская ластаўка»:**
**— Хто для Вас з'яўляецца беларускім героем?**

Міра Лукша: — Розныя асобы. Для мяне героем з'яўляецца Алаіза Пашкевіч (Цётка), якая хварэла на сухоты і далей стварала і пісала творы. Браніслаў Тарашкевіч, які ў польскай турме перакладаў «Пана Тадэвуша» на беларускую мову. З нашых тут вядомых герояў гэта будзе Юстын Пракаповіч. Настаўнікі таксама для мяне героі.

А перш за ўсё... маім героем з'яўляецца мая бабуля Люба, якая малой дзяўчынкай адна з меншым братам вярнулася з бежанства на бацькаўшчыну.

**«Нараўчанская ластаўка»: — Як Вы святкуеце 25 Сакавіка?**

Міра Лукша: — Думаю, што так як усе нашы людзі. Мы сустракаемся, спяваем нашы гімны. Сёлета 25 Сакавіка я святкавала разам з сотнямі беларусаў у Беластоцкай філармоніі. Гэта было ўзнёслае, светлае свята. Ніхто не думаў, што так многа людзей прыйдзе. Прайшоў цудоўны канцэрт.

**«Нараўчанская ластаўка»:**
**— А зараз дзе Вы хацелі б жыць — у Беластоку ці ў Мінску?**

Міра Лукша: — Я жыву на вуліцы Вясёлай у Беластоку. А ці ў Мінску хацела б жыць? Я Мінск ведаю, там жывуць мае сябры, мой хросны сын. Маю там многа знаёмых, асоб, якіх люблю і паважаю. Люблю прасторы Мінска. Сама жыву на скрыжаванні пяці вуліц, таму адчуваю сябе быццам жыву ў вузенькім доме. Пэўна хацела б крыху пажыць у Мінску.

**«Нараўчанская ластаўка»:**
**— Дзякуем за размову!**

Міра Лукша: — А я хачу падараваць вам салодкае сэрца, якое далі мне ў Міхалове. Пішыце і дасылайце вершы ў «Ніву».

**Апрацавала Габрыся Вільдовіч, ПШ у Гарадку**

## Польска-беларуская крыжаванка № 32-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 28-2018:**

Лета, мёд, Юры, кіно, як, тур, торт, факт, мэм, ды, парык. Люкс, Фея, ты, там, ток, куртка, мірт, ды, дождждык.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Pas | Korowód | | Ars | Nietoperz | | | | | |
| Krok | | | | | Mapa / Ryba | | Opona | Opiekunka | |
| | | | Leszczyna | | | | | | |
| | | Jeżyny | | | | | | | |
| | | Prosiak | | | | | | | |
| Pan / Glina | | | | | | | | Jan | |
| | | | | | | | Jak | | |
| Melon | | | | | Siano | | | | |

**«Сяброўская бяседа 2018» 29.07.2018 Гарадок**

**Фота Дароты Сульжык, http://gckgrodek.pl/**



































■ Міні-амфітэатр

# Прагулка па памежжы

Заглядаю ў Белую Страж, аднак нічога цікавага там не заўважаю. Інфармацыйны стэнд пры дарозе з Апакі ў бок Гайнаўкі інфармуе, што пачатак вёсцы даў дзедзіч Войнаўкі, які загадаў пабудаваць драўляны дом, у якім пасяліў дзве сям'і: лесніка дзеля аховы панскага лесу і пастуха, які ў тым лесе меў пасвіць панскі дабытак. Белы дом, у якім пан пасяліў стражнікаў свайго лесу, і даў назву вёсцы, якая пасля тут паўстала. У міжваенны час тадышнія ўлады пасялілі там 35 сямей вайсковых асаднікаў. Па-рознаму складваўся іхні лёс. Пасля Другой сусветнай вайны асталося там толькі шаснаццаць сем'яў. Стэнд: „Zajęciem mieszkańców, poza pracami polowymi, było wyplatanie koszy, na które pojawiło się ogromne zapotrzebowanie w okolicy. Kolejne zmiany przyniosły lata 90. Wówczas zlikwidowano punkt biblioteczny, ludzie przestali wyplatać kosze, a dzieci musiały zacząć chodzić na piechotę do szkoły w Policznej".

Вікіпедыя: „Палічна — вёска ў Гайнаўскім павеце Падляскага ваяводзтва Польшчы. Знаходзіцца ў гміне Кляшчэлі. У Палічнай з 2004 г. месьціцца цэнтр Грамадзкага аб'яднаньня Пачтоўка, арганізатара Тэатральнага фэстываля Вяртэп. Вёска Палічная была заснаваная над аднайменнай рэчкай у час валочнай памеры каля 1560 г. як сядзіба асочнікаў ахоўваючых Белавескую пушчу. У 1639 г. асочнікі пражывалі тут у 40 хатах, але ў выніку зьнішчэньня пушчы ў 1780 г. заставаліся тут ужо толькі 9 сем'яў асочнікаў. Пад канец 18 ст. мужыкі з Палічнай былі далучаныя да фальварку ў Амелянцу, але каля 1796 г. быў тут заснаваны самастойны фальварак. На бежанства 1915 г. выехала ўся вёска (на месцы засталіся толькі 3 сям'і). У міжваенны пэрыяд Палічная прыналежала да гміны Вярховічы Берасьцейскага павету Палескага ваяводзтва. Паводле польскага перапісу насельніцтва 1921 г. пражывалі тут 192 жыхары (усе праваслаўныя беларусы). У выніку пасьляваенных выездаў беларусаў з Польшчы ў Савецкі Саюз Палічную пакінулі 5 сем'яў. Пасьля Другой сусьветнай вайны Палічная была далучаная да гміны Кляшчэлі".

Пасля Другой сусветнай вайны ў Палічнай адбыліся і такія змены, пра якія Вікіпедыя не расказвае. Менавіта ў першай палове 1950-х гадоў завітала сюды задуманая далёкімі летуценнікамі „дабравольная" калектывізацыя. „Газета Беластоцкая" ў 1952 годзе інфармавала: „Było nas na początku w 1950 r. zaledwie 11 członków, ale i z tych nie wszyscy wychodzili do pracy. Nie zabrakło wśród nich i wrogów. Np. [X1] starał się wszelkimi sposobami rozbić spółdzielnię. W tym celu rozsiewał plotki, że w spółdzielni z głodu poumierają, że wyjdą wszyscy na dziadów. Nie przestraszyliśmy się, pomimo, że na barki nasze spadło wiele pracy... [...] Żyjemy wszyscy dziś dobrze, a przecież w następnych latach będziemy mieli jeszcze lepiej, [...] bo mamy naszą władzę ludową i naszą partię, na czele której stoi nasz ukochany Prezydent Bolesław Bierut".

У 1955 годзе: „Pierwsze plony spółdzielcze były tak obfite, że nie mało trudu trzeba było włożyć podczas żniw, aby je zebrać. Dziwiło wszystkich chłopów to, że zboża indywidualnych były słabe, jak zawsze, a zboża na zespołowym były gęste i wysokie o bujnych kłosach. [...] Kilka ostatnich zdań sprawozdania mówiło o tym, że POM nie wywiązał się ze swego zobowiązania i zamiast 8 hektarów łąki zaorał tylko 80 arów, a zamiast 40 hektarów orki pod żyto wykonał tylko 7... [...] W Policznej, spółdzielni, która jest w posiadaniu sztandaru przechodniego dla najlepszej spółdzielni w powiecie, część członków nosi się z zamiarem wystąpienia z gospodarki zespołowej. Nie dlatego, że żyją w biedzie, nie...".

А ў 1957 годзе тая ж газета паведамляла: „Pierwsze zebranie po VIII Plenum. Członek partii [X2] tłumaczy zebranym dlaczego spółdzielnia w Policznej powinna się utrzymać. Obok siedzi komendant MO. Do [X2] podchodzi [X3] i uderza go w twarz. [X1] dopinguje: Słabo bijesz, ja bym tak przyłożył, że więcej już by pary z ust nie puścił. [X5], członkowi partii, powybijali okna synowie [X1]. Za [X6], członkiem partii, [X4] rzucał sztachetami. [X2] ma świeżą szeroką bliznę na czole i sporo innych obrażeń ciała. Niedawno o północy [X7] i [X8] wtargnęli do mieszkania [X2] i pobili go do nieprzytomności. Oto niektóre metody wybicia z dwóch członków partii myśli o spółdzielczości. A wszystkim tym ekscesom towarzyszą okrzyki: „stalinowiec", precz z nim, zniszczyć, zdeptać, spalić...".


■ Юрта


■ Чыгуначны прыпынак

Эмацыянальная гісторыя калектыўнага гаспадарання ў Палічнай магла б стаць тэмай для хвалюючай тэатральнай пастаноўкі ў рамках менавіта «Вэртэпу». Але такія сцэнарыі пісаліся, здаецца, галоўным чынам савецкімі драматургамі, якія падганяліся тымі ж самымі прыводамі, што і палічанскія калгаснікі ці тадышняя беластоцкая журналісты, ці тадышняя «пралетарская» публіка. А тэатральны фестываль «Вэртэп», частку праграмы якога ўдалося мне ў гэтым годзе захапіць вокам, засяроджваецца на раскрыванні ўніверсальнай праўды.

Напэўна і ў Палічнай шмат часу людзі прысвячалі адвечным пошукам агульнай ісціны. Вось у цэнтры вёскі, акурат насупраць будынка крамы, у вулічным разгалінаванні, ёсць нешта накшталт міні-амфітэатра, накшалт вясковага клуба, са сталом і табурэткамі, дзе ў час будавання „Другой Польшчы" ў засені дрэў збіраўся мясцовы „актыў" і, сілкуючыся раскрываючымі душы вадкасцямі са згаданай крамы, абмяркоўваў розныя падзеі не толькі мясцовага маштабу. І цалкам магчыма, што тыя абмяркоўванні канчаліся надта эмацыянальнымі, нават больш маштабнымі чым у тэатральных драмах, фіналамі. Можна нават сказаць, што нават болей драматычнымі за той, якім завяршыла сваё існаванне тамашняе сцяганоснае калектыўнае гаспадаранне. Ці то жонка магла там уручную абвясціць мужу строгі выгавар, ці то самі мужыкі тусаваліся за свае рацыі. Гэта мая здагадка; здагадваюся таксама, што і палічанскі „амфітэатр" прыпыніў сваю дзейнасць запар са спыненнем дзейнасці тамашняй крамы. Але шкляныя рэквізіты ўсё яшчэ асталіся — месца ж вельмі выгаднае...

У 1963 годзе згаданая беластоцкая газета інфармавала: „Mieszkańcy Policznej, w pow. hajnowskim, będą w br. obchodzili Święto Odrodzenia szczególnie uroczyście. W dniu lipcowego święta oddane tu bowiem zostaną do użytku: nowy budynek szkoły podstawowej oraz remiza ze świetlicą (w świetlicy telewizor)". Будынак палічанскай школы даўно аброс мохам, затое ў дэпо ўсё яшчэ тлее жыццё. Магчыма, дзякуючы «Паштоўцы»; у маю там прысутнасць перад гэтай святліцай стаяла адмысловая юрта для тэатральных рэпетыцый. Калі я спытаў жыхара недалёкай хаты пра тую юрту, ён мне нічога канкрэтнага пра яе не мог адказаць, апрача таго, што паставілі яе два дні раней, а за канкрэтамі кіраваў мяне дла пана Дарка, арганізатара «Вэртэпу»...

Яшчэ пра іншае палічанскае згадвае інтэрнет: гэта ўраджэнец вёскі „Юры Сьцепанюк (1880 — 1918) — праваслаўны сьвяты мучанік. Кананізаваны Маскоўскім патрыярхатам". І далей: „Священномученик Георгий родился в 1880 году в селе Полична Брестского уезда Гродненской губернии. С 1900 года он был преподавателем в сельской школе. После окончания пастырских курсов в Москве Георгий был рукоположен во священника и в 1911 году направлен служить в Туркестанскую епархию в село Глиновка Лепсинского уезда Семиреченской области; в 1913 году он был переведен служить в храм в селе Андреевское того же уезда и назначен в церковно-приходскую школу законоучителем и преподавателем арифметики. В 1918 году захватившие власть в России безбожники развязали в стране гражданскую войну. Супруга священника предложила ему скрыться и переждать смутное время. Но отец Георгий сказал: „Скоро праздник Святой Троицы. Что скажет народ?" И остался. Вскоре пришедшим отрядом Красной гвардии в селе была установлена советская власть. Отец Георгий был арестован и две недели содержался под стражей; затем его вывели к народу, чтобы собрать против него свидетельства. Однако таковых не нашлось, и священник был освобожден. 26 июня 1918 года в село вошел другой отряд красногвардейцев, и несколько красногвардейцев сразу же направились к дому священника. В тот же день после полудня в сопровождении конного конвоя священника повели на расстрел. Отец Георгий попрощался с супругой и детьми и пошел по центральной улице села. За страшной процессией шли женщины и подростки. Дойдя до крутого берега реки, красногвардейцы спешились и вместе со священником стали спускаться к реке. Отец Георгий подошел к воде, опустился на колени и, воздев руки к небу, стал молиться. Затем он повернулся лицом к палачам, крестообразно сложил руки на груди и, воздохнув к Богу, сказал: „Прими, Господи, мою грешную душу!" Красногвардейцы выстрелили и убили священника. Погребение убитого пастыря совершили четыре священника из соседних сел. Священник Георгий Степанюк был погребен на сельском кладбище. Много лет потом верующие приходили тайком на его могилу помолиться и попросить его заступничества перед Богом".

Ёсць яшчэ адна Палічна ў Польшчы, на поўдні Мазавецкага ваяводства. Менавіта на тэрыторыі тае гміны, у Чарналесе, жыў вядомы польскі хрэстаматыйны паэт Ян Каханоўскі. І ў палічанскім касцёле ўзяў шлюб вядомы польскі пісьменнік Стэфан Жаромскі, а сведкам яму быў іншы славуты пісьменнік Балеслаў Прус...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Спеў выхоўвае душу

Размова з **Тамарай АНГАЛЮК**, дырыжорам Акадэмічнага хору „Белая вежа" Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта, які ўдзельнічаў у сёлетнім XXXVIII Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі.

**— Якія жанры, апрача царкоўнай музыкі выконвае ваш хор?**

— У нас вельмі многа беларускай народнай апрацоўкі для хору. У прынцыпе наш рэпертуар гэта духоўная музыка і народная беларуская. Мы нясём, мы абавязаны несці культуру сваёй краіны. Мы бываем на фестывалях; мы былі ў Францыі, мы былі ў Познані — Універсітэт Адама Міцкевіча ладзіць такі міжнародны фестываль студэнцкіх калектываў, хароў і аркестраў. У прынцыпе нам трэба было прадставіць культуру сваёй краіны, таму і туды мы вазілі духоўны і беларускі рэпертуар. Ну, і звычайныя песні зарубежнай і нашай класікі. Але ў прынцыпе ў нас упор на апрацоўку для хору беларускай народнай песні. Ну, і канешне, я прывучаю студэнтаў да духоўнай музыкі, таму што гэтая музыка выхоўвае душу; у прынцыпе харавы спеў выхоўвае душу.

**— Ці вашы спевакі выступаюць у цэрквах?**

— Не. Вы знаеце, на жаль, мы ў храмах свайго горада ні разу не спявалі, а спяваем толькі, вось, у храмах Францыі былі, у храмах Познані былі, і перад намі канцэрт у храме ў Белавежы. Так, мы не спяваем на клірасе, не спяваем на службе. Справа ў тым, што гэта студэнты эканамічных, інжынерных спецыяльнасцей. Моладзь не ведае нотнай граматы, у іх вельмі напружаны вучэбны працэс і ім хапае часу толькі вечарамі збірацца на



хор. Бачыце, як у мяне многа моладзі, не ўсе яшчэ сюды прыехалі. І я ганаруся тым, што наша харавая творчасць заражае наша маладое пакаленне, якое, магло б здавацца, не хацела б спяваць у хоры. Нашай жа першай задачай ва ўніверсітэце, дзе навучаецца моладзь, гэта выхаванне чалавека. Таму я вельмі рада, што мне ў 2013 годзе ўдалося засnаваць хор. Наш хор малады, яму толькі пяць гадоў, маем поспехі. Калі хор трапіў на такі фестываль, значыць ён дасягнуў ужо такіх вышынь і мы маем гонар мець людзей, якія выконваюць духоўную музыку. Студэнты нашага ўніверсітэта могуць паслухаць людзей, якія прафесіянальна займаюцца музыкай. Мне вельмі падабаецца, што гэты фестываль яднае ўсе ўзроўні, дае ўсім магчымасць адчуць сябе сапраўднымі артыстамі хору, паслухаць людзей, якія спяваюць прафесіянальна, якія спяваюць аматарска, якія спяваюць у храмах — гэта для нас вельмі важнае. Я хачу адзначыць, што фестываль карыстаецца шырокай вядомасцю ў Брэсце, пра яго многія ведаюць і ўражаны, што мы сюды прыехалі, пажадалі нам поспеху. Хачу яшчэ заўважыць, што фестываль адбываецца на вельмі высокім узроўні. Усе арганізацыйныя праблемы — без праблем. Усё было выдатна, лёгка было згаворвацца з арганізацыйным камітэтам, з дырэктарам фестывалю; агульна — толькі прыемныя ўражанні. Мы шчаслівы быць на гэтай сцэне і мы будзем вельмі рады, калі нас яшчэ калі-небудзь сюды запросяць. Інтэнсіўная работа, штодзённая работа дае такі вынік з моладдзю, якая не ведае нотнай граматы, таму што вельмі многа з голасу — я спяваю, яны паўтараюць. Прафесіяналаў у мяне няма, у мяне, так сказаць, толькі чыстай вады любіцелі, толькі тыя, што ў хоры нечаму навучыліся.

**— А як Вы іх набіраеце?**

— Набіраю так: у нас першы курс прыходзіць для вучобы, мы праводзім анкетнае апытанне. Калі нехта са студэнтаў некалі займаўся музыкай, напрыклад, спяваў у хоры ці іграў на музычным інструменце, або больш проста — у нас праводзіцца фестываль „Новыя зоркі БрДТУ". Мы праводзім творчае свята, яны выступаюць, мы бачым, што яны ўмеюць, і тых, хто нам патрэбны, мы проста запрашаем. Я званю, запрашаю, праслухоўваю. Калі больш-менш недзе чалавек інтаніруе так нармальна, тады мы яго бярэм у хор. І працуем, і вучым усяму, што трэба ведаць для харавой, вакальнай творчасці.

**— Дзякую і жадаю далейшых поспехаў.**

Гутарыў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

---

Шпаркія вілкі

Беларуская ежа ў гаршэчках

# http://vilki.by

Апошнім часам у розных гарадах Беларусі пачалі з'яўляцца рэстарацыі, спецыяльнасць якіх — стравы беларускай кухні. Магчыма, гэта праяўленне існуючага ў некаторай частцы грамадства запыце на беларускасць, а магчыма, дробныя прадпрымальнікі хутчэй за буйныя прадпрыемствы разумеюць, што гэтым можна завабіць турыстаў. Таму стаўка на беларускасць адназначна выйгрышная.

Адным з прыкладаў такой рэстарацыі, якая пазіцыянуе сябе як выключна беларуская, з'яўляюцца „Шпаркія вілкі", што пару гадоў працуюць у Мінску. Сайт „вілак" месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://vilki.by.** Цікава, што слова „шпаркі" пачалі выкарыстоўваць і іншыя беларускамоўныя рэстарацыі, тым самым падкрэсліваючы, што выкананне замоў будзе цягнуцца не вельмі доўга. Да прыкладу, у Магілёве існуе кавярня „Шпаркі лось", дзе ўсё зроблена па-беларуску.

„Шпаркія вілкі" — здаровая хатняя ежа ў лепшых традыцыях беларускай нацыянальнай кухні. Каронная страва — традыцыйная беларуская бульбяная бабка. Прадукты галоўным чынам фермерскія, іх гадавалі без узмацняльнікаў росту і розных дабаўак. Асаблівасць кухні — тушэнне, запяканне ў гліняных гаршэчках і дастаўка пакупніку. З аднаго боку, гэта арыгінальна, а з іншага — лепш захоўваецца цяпло. Апроч смачнай ежы заказчык застаецца невялікі сувенір — керамічны гаршок", — распавядаецца пра „Шпаркія вілкі" на сайце беларускамоўнага бізнесу „Свае".

Паводле гэтага партала, „Шпаркія вілкі" — гэта найперш інтэрнэт-дастаўка ежы, але таксама і рэальная кавярня ў цэнтры. „Тут ідэйна-"наша" кіраўніцтва, але персанал адстае. Дыспетчаркі хоць і праінструктаваныя адказваць на беларускай, але практыкі маюць мала, таму могуць пераходзіць на самі ведаеце якую мову. Пра кур'ераў казаць не выпадае. Агулам, кіраўніцтва, як і шмат дзе, зазначае праблемы з пошукам беларускамоўных супрацоўнікаў", — з прыкрасцю распавядаецца на сайце.

Што ж тычыцца віртуальнага прадстаўніцтва „вілак", то яно сапраўды прыцягвае ўвагу. Аздобленае ў стылі беларускага арнаменту выяўленне прадстаўляе здымкі разнастайных страў з пазначэннем цаны. Выглядае сапраўды даволі апетытна. Што ж да смаку, то пра яго кожны можа распавесці, пакаштаваўшы ежу. Напрыклад, журналісты інтэрнэт-выдання „Куку" кажуць, што ў меню „Шпаркіх вілак" няма страў для здаровага ладу жыцця. „Тлумачыцца гэта тым, што беларуская кухня ад пачатку была тлустай і цяжкай", — робяць яны выснову, пакаштаваўшы замоўлены абед, і дадаюць, што абсалютна ўся ежа кісловатая — „адчуваецца, што родам з адной печы".

Паколькі стравы дастаўляюцца ў гаршэчках, якіх ужо ніхто нікуды не забірае, то потым іх можна прыстасаваць для гатавання ў сваім доме. Такі падарунак, па задумцы кулінараў са „Шпаркіх вілак", мусіць прыцягнуць увагу патэнцыйных кліентаў.

„На дадзены момант наша асаблівасць абыходзіцца некалькі затратна, бо пастаўшчык пастаянна павышае цану на гаршкі. Цяпер перад намі стаіць задача выйсці на большы аб'ём продажу, пры якім мы зможам адкрыць сваю вытворчасць. Тады збанкі будуць і цікавей па дызайне, і разнастайней", — распавёў у красавіку інтэрнэт-выданню „Goodstart" уладальнік „Шпаркіх вілак" Аляксандр Журкевіч.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

## 125 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Ружанцова

Беларускі вайсковы дзеяч, пісьменнік, бібліёграф Аляксандр Ружанцоў нарадзіўся 12 жніўня 1893 г. у Вязьме (Смаленская губерня). Скончыў вяземскую гімназію, у якой упершыню з геаграфічнага падручніка даведаўся пра Беларусь. У 1911 г. паступіў на гісторыка-філасофскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта, а ў 1914 г. — у Маскоўскую Аляксееўскую вайсковую школу.

Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне, служыў у IV пяхотным палку. Быў паранены каля Бярэзнікаў (паблізу Сейнаў). У 1918 г. у Смаленску мабілізаваны ў Чырвоную Армію, прызначаны камандзірам палка, што вёў баявыя дзеянні ў Беларусі і Літве. У 1919 г. перайшоў на літоўскі бок, узначаліў у рангу маёра Першую беларускую роту, што ваявала супраць усіх іншых сіл. За геразім у баях з чырвоналатышскімі войскамі 26-28 чэрвеня 1919 г. 25 жаўнераў роты, у тым ліку Ружанцоў, былі ганараваны літоўскім ордэнам „Крыж Пагоні". У верасні 1920 г. Ружанцоў узначаліў створаны Беларускі асобны батальён.

У 1918-1921 гг. заснаваў і рэдагаваў шэраг беларускіх вайсковых часопісаў („Беларус вайсковы", „Варта Бацькаўшчыны"), выступаў з артыкуламі па беларускай вайсковай гісторыі. Як аўтар у 1920 гг. друкаваўся ў газетах „Беларускі звон", „Беларускія ведамасці". Пісаў пад псеўданімам Алесь Смалянец. Паэзія прасякнутая вайсковай тэматыкай. Пэўны час працаваў у беларускай адміністрацыі Гарадзенскага павета. У літоўскім войску служыў да 1940 года, дзе працаваў пажарным інспектарам, арганізаваў 32 вайскова-пажарныя брыгады, падрыхтаваў службовыя інструкцыі. Пайшоў у адстаўку ў рангу падпалкоўніка. У гісторыю бібліятэк Літвы ўвайшоў як першы спецыяліст па арганізацыі спецыяльных бібліятэк. У 1921-1940 гг. — дырэктар Цэнтральнае вайсковае бібліятэкі ў Коўне. У 1940 г. пачаў працаваць загадчыкам Кабінета бібліяграфіі ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

У пачатку Другой сусветнай вайны звязаўся з генералам Кастусём Езавітавым і па яго рэкамендацыі прыняты ў штаб беларускіх войскаў, дзе адказваў за супрацьпажарную ахову. Уваходзіў у склад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. У 1944-1945 гг. разам Езавітавым працаваў у Берліне ў штабе „беларускага вызвольнага войска", потым апынуўся ў Мемінгене (Баварыя) у лагеры для перамешчаных асоб. Супрацаваў з літоўскім і беларускім друкам, быў сябрам Літоўскай Энцыклапедыі. Агулам апісаў 16 тысяч літоўскіх выданняў.

З 1949 г. Ружанцоў жыў у ЗША. Займаўся праблемамі бібліяграфічнай справы. Склаў і надрукаваў некалькі паказнікаў, у тым ліку надрукаваў аналітычны паказнік часопіса „Веда", што выдаваўся Беларускім (Крывіцкім) таварыствам імя Францыска Скарыны, і пачаў аналітычны паказнік друкаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва („Запісаў" і „Конадняў"). Спрычыніўся да ўвядзення беларускаведнага матэрыялу ў літоўскую энцыклапедыю, таксама вёў улік таго, што друкавалася ў літоўскім друку пра Францішка Скарыну і беларускую справу наогул, і прысылаў гэтыя звесткі ў БІНІМ.

Яшчэ пры жыцці падрыхтаваў зборнік сваіх вершаў, але пра лёс зборніка амаль нічога невядома. Пісаў вершы, якія Максім Гарэцкі характарызаваў як „моцныя думкаі і арыгінальнымі формаю". У постсавецкай Беларусі творы Ружанцова ўпершыню з'явіліся ў кнізе „Туга па Радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі" (Мінск 1992). Вядома, што рабіў пераклады з беларускай мовы на літоўскую.

Памёр Аляксандр Ружанцоў 23 ліпеня 1966 года ў горадзе Дэнвіл (штат Ілінойс, ЗША).

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# XXIV SPASAUSKIJA ZAPUSTY

## 12 sierpnia 2018 r.

**Amfiteatr Miejski w Parku Królowej Heleny w Bielsku Podlaskim**

godz. 15.30 - **"PEREPELICA"**
obrzęd w wykonaniu chóru Pieśni i Tańca
**Wasiloczki** (BDK)
oraz Zespołu Teatralnego
**Antrakt** (BDK)

godz. 16.00 - **KONCERT ZESPOŁÓW I SOLISTÓW**

- **Jesienny Liść** - (Uniwersytet III Wieku)
- Duet **Mania i Wania** (Siemianówka)
- Soliści zespołu **Kaprys** (SP3 z DNJB im.J.Kostycewicza)
- **Wasiloczki** (BDK)
- **Łuna** (Parcewo)
- **Małanka** (BDK)
- **Amoreo** (Bielsk Podlaski)
- **Żurawiny** (Kobryń Białoruś)
- **Haj** (Białystok)

Sponsorzy:
BURMISTRZ I RADA MIASTA BIELSK PODLASKI
POWIAT BIELSK PODLASKI
GMINA BIELSK PODLASKI

## Адгаданка

1. чалавек, які жыве побач, 2. між галавою і тулавам, 3. не мір, 4. вадкасць у возеры, 5. жывёльны сімвал упартасці, 6. дзяржава з Маракешам, 7. іспанскі Іван, 8. кандытарскі выраб са здобнага цеста з крэмам для важных сямейных урачыстасцей, 9. далягляд, які пачынаецца з... гары, 10. плод для шарлоткі, 11. маскоўскі імператар, 12. прастора, дзе растуць бульба з жытам і грэчкай.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | 2 | | | 3 | | |
| | | | | | 4 | | | | | 5 |
| | | | 6 | | 7 | 8 | | | | |
| | 9 | | | | | 10 | 11 | | | 12 |
| | | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 29 нумара**

„Аіда”, Буш, вал, веер, ёд, укол, чыжык.

Рашэнне: **Добры чалавек і жывёлу шкадуе**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 12.08 — 18.08

**(22.03. — 20.04.)** 12.08., дзейнічаючы без плану, можаш шмат страціць. Але Марс пастараецца, каб не страціў ты грошай, нават схаваўшы табе кашалёк ці карту. Вельмі добрая форма, можаш нават ісці ў горы. Удачы, папулярнасць. Будзь актыўным, з добрымі задумамі чакаюць цябе поспехі.

**(21.04. — 21.05.)** 12.08. можа табе здацца, што ўсе сілы сталі супраць цябе. Магчымыя раптоўныя звароты акцыі. Магчымы балаган, асабліва на працы. У пачуццях салодкая нуда. Але і спрэчкі з суседзямі. На працы магчымая раптоўная змена планаў. Калі працуеш на сваім — нетыповыя прапановы. У водпуску стаў на натуральнасць.

**(22.05.—22.06.)** Цікавей у жыцці. Не занядбоўвай абавязкаў. Выдатная спраўнасць інтэлекту, дык працуй — многа можаш цяпер зрабіць, запланаваць. Не шкадуй кампліментаў. Найбольш прыемна ў хатнім зацішшы. Выдатны настрой.

**(23.06. — 23.07.)** Старайся не дзейнічаць пад уплывам эмоцый. Нялёгкія абавязкі і заданні. Можаш вырашыць важныя сардэчныя справы. Самотныя Ракі няхай не перажываюць — сваю палавінку яшчэ сустрэнеце! На працы патрабуй свайго. Не адмоўся ад сваіх даўгоў, нават можаш падаць у суд сваіх даўжнікоў. Варта табе сесці на дыету.

**(24.07. — 23.08.)** Чэрпай з красы лета поўнымі жменямі! Сонца спрыяе зменам да лепшага. Дазволь сябрам і знаёмым мець сваю думку, не пераконвай іх сілай да сваіх меркаванняў. Магчымыя хваляванні ў настроі, найбольш з-за змен у надвор’і. 17-19.08. можаш камусь закруцінуць у галаве!

**(24.08. — 23.09.)** На шкадуй сабе адпачынку. Хаця трэба будзе ўпарадкаваць шмат спраў. Удачы ў самых важных мерапрыемствах. У пачуццях без сюрпрызаў, хаця можаш раптам засумаваць па былой каханай асобе. На працы дай сабе час на разварушэнне, калі акурат вярнуўся з адпачынку. З 13.08. штораз лепшая форма, але не «даказвай» як за маладых гадоў. У падарожжа не бяры цяжкага багажу, дбай аб пазваночнік.

**(24.09. — 23.10.)** Усе цябе любяць, а твае задумы выклікаюць захапленне. 12-14.08. знойдзеш выхад з нялёгкай сітуацыі. 17-19.08. пераканаеш блізкіх да задумы, на якой даўно табе залежала. На працы найлепшыя лады ў калектыве, што прынясе поспех для ўсёй фірмы; 17-19.08. можаце спраўна ўвайсці на рынак і добра зарабіць як фірма і ўсе паасобку. Вельмі дбай аб здароўе — ад 13.08. пагражаюць табе праступа, кантузіі, нервовыя зрывы (прабывай толькі ў мілай кампаніі).

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш схільны да рэлігійных, філасофскіх пошукаў. Новыя магчымасці, удачы. Але 12-14.08. можаш адчуць, быццам цябе адставілі на бакавыя пуці. Ад 13.08. будзеш прадпрымальны і паспяховы. Застрахуй сваё жыллё. Калі шукаеш працу, можа да цябе адклікнуцца фірма з іншай галіны, чым ты займаешся; маеш шанц пачаць штосьці новае. Не натужвайся пры фізічных працах, каб не надарвацца.

**(23.11. — 22.12.)** Канчай наракаць на самоту і нудную работу! Пабачыш — усё магчымае! Добры настрой, нагоды для добрай забавы. Адновяцца старыя знаёмствы. 17-19.08. прачнуцца ў табе мастацкія таленты. Здзейсняцца мары пра гарачыя пачуцці ў Стральцоў з пераломам другой і трэцяй дэкады. Схадзі да зубнога ўрача. Хавай вочы і галаву ад лішняга сонца.

**(23.12. — 20.01.)** 12.08. можаш разгубляцца (з-за зацьмення Сонца). Афармляй важныя справы. Будзеш мець сілу і трываласць, з усім справішся, хаця можаш быць не вельмі самаўпэўнены. 17-19.08. вялікія шанцы на важныя знаёмствы. Падрыхтоўкі да мерапрыемства, якое рушыць 22.08. Не турбуйся за грошы — у выпадку патрэбы дастанеш іх нават з-пад зямлі!

**(21.01. — 19.02.)** Шанцы на павышэнне, хаця да 19.08. цяжка будзе табе вучыцца новаму і думаць па-новаму. Лепшыя вынікі будзеш мець працуючы адзін. Вялікая папулярнасць. Выйдзеш з руціны. У пары неверагодныя жарсці! Не парывай старых, доўгіх знаёмстваў. 17-19.08. дасканалыя падарожжы, забава. Прагоніш свае траўмы, боязі, вырашыш самыя цяжкія душэўныя праблемы. Добра высыпайся, праводзь як найбольш часу пад адкрытым небам.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш добра гуляць і адпачываць. Будзеш мець сілу для перамог. Схочацца пабыць у ціхім, знаёмым месцы — там найлепш адпачнеш. На працы падрыхтуй план дзеянняў. Пазбягай скразнякоў, кліматызаваных памяшканняў, насі на шыі хустачку. Вядзі больш здаровы вобраз жыцця, бо здароўе стане цябе турбаваць пад канец жніўня!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская,Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Маё Кіліманджара

## частка I



Раніца на вышыні 3700 метраў — лагер Гаромба Хат (Horombo Hut)

На Джыльманс Поінт (5685 метраў) ускараскаліся згодна з планам — да ўсходу сонца. Ішлі ўверх шэсць гадзін, памалу, нага за нагой, дзе спатыкаючыся аб камень, дзе апаўзаючы разам з вулканічным чорным пяском, дзе спыняючыся на глыток гарбаты, кавы ці гарачай вады з імбірам. У цемры, у якой мільгацелі толькі зоркі і нагалаўныя лямпачкі. А ў галаве назойліва пульсавала ўказанне кіраўніка групы, легендарнага польскага гімалаіста Лешка Ціхага: „На вышыні не спяшайцеся. Замест аднаго доўгага кроку рабіце тры малыя". Крокі самі рабіліся ўсё меншымі, ногі цяжэйшымі, а да паасобных частак арганізма заглады з мозгу даходзілі памалей і памалей. Толькі сэрца білася хутчэй і хутчэй, як быццам хтосьці падключыў да яго маторчык. Дарога здавалася без канца, без краю...

...а калі чырвонае сонца пачало выпаўзаць з-за небакраю і мы нарэшце стаялі на беразе кратара, я не быў упэўнены, ці яшчэ жыву. З гэтым светам звязваў толькі пранізлівы вецер, які ўбіваў іголкі холаду пад вопратку. І яшчэ лютая злосць на ўсіх тых, хто перад выездам прасіў: толькі там наверсе рабі многа здымак. Вазьмі і зрабі! Пазабіваў бы! Праўда, былі такія, што фоткалі сонца, хмары, скалы, снег і сябе на гэтым фоне, але я не даў рады нават зняць рукавіцы. Апрача стомы і холаду паралізавала свядомасць, што мэта нашага ўзыходжання — Пік Угуру — яшчэ дзвесце метраў вышэй. Каля паўтары гадзіны маршу па снезе і лёдзе.

* * *

Шэсць дзён на нагах, прычым ужо першага падняліся вышэй за тры тысячы метраў, а зышлі ніжэй гэтай планкі ў апошні дзень. Пяць начэй у палатцы, з якіх толькі адна была з плюсавай тэмпературай. І толькі першая без абязбольваючых сродкаў. У цяжкія хвіліны адцягвання таго моманту, калі чалавек ужо не мог трываць і мусіў выпаўзці з цёплага спальніка, у цемры знайсці куртку, а потым папасці ў замерзлыя чаравікі, у галаву назойліва лезла пытанне: што я, паляшук з-над нарвенскіх разліваў, з-пад Белавежскай пушчы, тут раблю? Навошта мне гэтая „прыгода жыцця"? І чым больш думаў, тым відавочней станавіўся адказ: вінаватая літаратура.

*Kilimadżaro to pokryta śniegiem góra, wysokości 19 710 stóp, o której powiadają, że jest najwyższa w Afryce. Szczyt zachodni znany jest pod nazwą „Ngaje Ngai" czyli Dom Boga. Tuż pod zachodnim szczytem leży wyschnięty i zamarznięty szkielet lamparta. Nikt nie potrafił dotąd wytłumaczyć, czego mógł szukać lampart na tak wielkiej wysokości.* Так у польскім перакладзе пачынаецца хрэстаматыйнае апавяданне Эрнэста Хемінгуэя „Снягі Кіліманджара". Класічная для польскага чытача кніга *„49 opowiadań"*, якая першы раз пабачыла свет у 1964 годзе ў выдавецтве *Polski Instytut Wydawniczy*, а потым шматкроць перавыдавалася — адна з тых нешматлікіх, якую ўмею знайсці на паліцы. Гэта першая віноўніца, якую сустрэў на сваёй дарозе ў далёкім дзяцінстве.

Другая — сучасная. Называецца Анна Камінская, сёлетняя лаўрэатка Літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага. Паміж дзвюма белавежскімі кнігамі: *„Białowieża szeptem"* (за якую і была ўзнагароджана) ды біяграфіяй Сімоны Косак яна захаплялльна апісала гісторыю Ванды Руткевіч, першай жанчыны, якая пакарыла Джамалунгму (Эверэст) і ў высокіх горах ішла ў нагу з мужчынамі. Збіраючы матэрыял для кнігі Аня пазнаёмілася з цэлым асяроддзем польскіх гімалаістаў. Пасля афіцыйнай цырымоніі ўручэння прэміі прэзідэнтам Беластока, літаратурная і калялітаратурная кампанія працягвала сімпатычную вечарыну ў неафіцыйных абставінах. „Хто хоча пайсці са мною на Кіліманджара? — знянацку спытала Аня. — Запрасіў мяне Лешак Ціхы. Ёсць яшчэ адно месца".

Ваў! Супер! Цудоўна! Сярод ахаў і вохаў захаплення маё імя гучала, відаць, найчасцей і найгалаcней, бо...

... праз пару дзён, калі я сабе спакойна лежма ні то штосьці чытаў, ні то драмаў над кніжкай, адазваўся званок тэлефона і пачуў я ў слухаўцы нізкі, моцны голас: *Dzień dobry, nazywam się Leszek Cichy. Podobno jest pan zainteresowany wyprawą na Kilimandżaro.*



Масіў Кіліманджара з горада Мошы (каля 50 кіламетраў)

* * *

Разам з Лешкам было нас дзевяць чалавек. Спаткаліся ноччу ў аэрапорце Акэнце, адкуль адпраўляліся спачатку ў Амстэрдам, а затым у Танзанію. Наймаладзейшаму ўдзельніку экспедыцыі было трыццаць сем, найстарэйшаму — трыццаць гадоў больш. Некалькі асоб ужо ведалі адзін аднаго, бо ўдзельнічалі ў кампаніі „Польскія Гімалаі", у межах якой паедуць восенню ў Непал, пойдуць да першага лагера альпіністаў на Эверэсце (вышэй за 5 тысяч метраў), а некаторыя пабягуць вуліцамі Катманду ў эстафеце „100 кіламетраў на сто год незалежнасці Польшчы". Яны прайшлі падрыхтоўку ў польскіх горах. Сужонства лекараў з Кракава (шасцідзесяцігодкаў) кожную свабодную хвіліну праводзіць на горных шляхах. Некалькі разоў пакарылі Манблан. Толькі дзве асобы ў групе былі навічкамі: Эва, саракагадовая працаўніца варшаўскай карпарацыі і я — 52 гады, пятнаццаць кілаграмаў лішняй вагі, спорт толькі перад тэлевізарам і час ад часу прагулка на ровары па наваколлі. Сорамна прызнацца, але я ні разу не быў у Закапанэ. Татры, праўда, бачыў са славацкага боку і то пераважна знізу. Найвышэй, дзе я быў, гэта вёска Ушгулі (2200-2300 метраў) у грузінскім рэгіёне Сванецця, але я туды... уехаў на пазадарожніку. Пра ўсё гэта я, зразумела, папярэдзіў Лешка Ціхага загадзя. На што ён адрэагаваў спакойна: *Hmm, no tak, nie szkodzi.*

Як *nie szkodzi*, то не было выхаду — мусова рыхтавацца. Да выезду заставаліся тры месяцы, а спіс рэчаў, якія трэба было ўкамплектаваць складаўся з трыццаці сямі пунктаў. Распісана было ўсё, ад акуляраў і крэмаў ад сонца, праз тонкія і грубыя шкарпэткі (колькі пар), рукавіцы, бялізну, майкі, па блузы, курткі і шапкі. Найважнейшыя — добрыя боты, каб трымалі костку і цёплы спальнік. Не купляй Бог ведама чаго, інструктаваў Лешак, дастаткова такой вопраткі як на лыжы. Толькі адкуль чалавеку, які ніколі не быў на лыжах, ведаць што да чаго?



Яшчэ лёгка, але за спінаю чакае выпрабаванне

Пакуль узяцца за пакупкі, трэба было вырашыць больш важную справу. Прызнацца перад самім сабою, што нага, якая пабольвала некалькі апошніх гадоў, а то і прымушала час ад часу прыпынацца „пачытаць рэкламы", не дае ніякіх гарантый, што вынесе мяне на амаль шэсць тысяч метраў. Давялося прайсці мне паскораны курс анатоміі, пачуць ад фізіятэрапеўта, што ў маім узросце пазваночнік не можа быць такім як у васямнаццацігодка. У выніку мая фізічная падрыхтоўка звялася да гадзін у рэабілітацыйных кабінетах.

Пакупкі таксама былі добрай забавай. Паспрабуйце ўлетку купіць, напрыклад, цёплыя рукавіцы. А са спальнікам было такое, што ў краме *Decathlon* не мог я рашыцца, ці ўзяць таннейшы (сто злотых), прадуцэнт якога абяцаў камфортную ноч пры плюс пяці градусах Цэльсія, ці ўсё ж такі раскашэліцца і купіць за трыста, у якім можна было спаць і пры мінус пяці. Патэлефанаваў я Лешку. У адказ спачатку пачуў яго характэрнае „гмм", а потым: за трыста злотых добрага спальніка не купіш. Ужо на шляху, калі мы смяяліся з маёй пакупніцкай наіўнасці, Лешак Ціхы патлумачыў, што маецца на ўвазе прадуцэнты спальнікаў для супермаркетаў, калі пішуць на іх экстрэмальную тэмпературу. „Гэта тэмпература, пры якой будзеш у тым спальніку бегаць вакол палаткі і не замерзнеш".

* * *

Не паляцеў бы я, пэўна, у Афрыку без моцнай падтрымкі сям'і. Бо хоць разумеў, што такая прапанова больш не паўторыцца, што гэта апошні шанц на рэальную канфрантацыю з марай дзяцінства, то многа было ў мяне сумненняў. Затое і жонка, і дачка аднназначна сказалі: едзь! І нават сын, які саркастычна параіў мне зрабіць здымак жывата і выслаць Ціхаму — „думаю, што адразу выкрасліць цябе са спіска" — трымаў скрыжаваныя пальцы за мой поспех. І рэгулярна намаўляў мяне да больш інтэнсіўнай фізічнай падрыхтоўкі.

Пішу пра гэта, бо як аказалася — мне на вялікае здзіўленне — такі падыход далёка не норма. Парадаксальна, Аня Камінская не змагла паехаць, перашкодзілі нейкія ці то прафесійныя, ці сямейныя справы. Звольнілася месца. Давай я пытацца сяброў і знаёмых. Хтосьці адкрыта прызнаваўся, што баіцца, хтосьці казаў, што задорага, камусьці не дазвалялі службовыя абавязкі, іншаму — сямейныя. Некаторыя казалі, што яшчэ не гатовыя, але ў наступным годзе, то яны напэўна! І прасілі, калі што, звязаць іх потым з Лешкам Ціхым. Але спаткаўся я і з такой рэакцыяй жонкі: няма мовы, я мужа не пушчу!

Ніхто з тых, хто ахаў і вохкаў, калі пачуў „Кіліманджара", хто мне казаў „зайздрошчу", хто амаль экстатычна прызнаваўся ў любові да экзатычных падарожжаў — не рашыўся да нас далучыцца. Ну што ж, відаць у кожнага сваё Кіліманджара.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Міколы ВАЎРАНЮКА**



ISSN 0546-1960